# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (702) 10 ЖНІЎНЯ 1969 Г. ЦАНА 60 гр.




Танцавальная група навагрудскага ансамбля песні і танца «Свіцязь». Фотарэпартаж аб ансамблі змяшчаем на 3-ай старонцы.

## ВЫСОКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ ДЛЯ ДЗЕЯЧАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ



**Група ўзнагароджаных дзеячаў БГКТ зрабіла памятны здымак з сакратаром Рады Дзяржавы Людамірам Стасякам, якія знаходзіцца ў цэнтры фатаграфіі. Злева направа: А. Хлябіч, В. Бура, В. Антыпюк, У. Раеўскі, Н. Вішнеўская, Л. Стасяк, Н. Цыванюк, Н. Мушынская, С. Філіпюк, М. Хмялеўскі, Ю. Бусловіч, І. Зенюк, Г. Валкавыцкі, А. Іванюк.**

Фота Цаф — Сянько

Як мы ўжо інфармавалі, вялікай групе дзеячаў нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў — беларускага, украінскага, літоўскага, чэхаславацкага, рускага, нямецкага, яўрэйскага і Саюза палітычных эмігрантаў з Грэцыі — па прапанове Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа, Рада Дзяржавы ПНР прызнала высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

Былі павядомлены Галоўныя праўленні паасобных таварыстваў, што ўручэнне ўзнагарод адбудзецца 21 ліпеня ў 10 гадзін раніцы ў сядзібе Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа.

Было вядома, што з Беласточчыны ўзнагароджаны 22 асобы: 15 чалавек з Беларускага таварыства, 3 — з літоўскага і 2 — з украінскага.

Каб выезд у Варшаву адбыўся арганізавана, ГП БГКТ забяспечыла начлег і паведаміла, што ўсе павінны прыехаць у Беласток вечарам 20 ліпеня. З Беластока ў Варшаву выехалі мы нанятым аўтобусам у 5 гадзін 30 мінут раніцы.

У час язды вяліся гутаркі аб грамадскай працы, аб тым, што нашыя ўлады цэняць дзейнасць нацыянальных таварыстваў, што яны дапамагаюць заўсёды вырашаць усе справы і праблемы.

Час падарожжа хутка праляцеў. І вось мы ў Алеях Уяздоўскіх у сядзібе Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа. Запрасілі нас у вялікую залу і паводле польскага алфавіта ўстанавілі ў паўкруг. Нейкае ўрачыстае хваляванне адчувалася ва ўсіх. Праз некалькі хвілін увайшоў сакратар Рады Дзяржавы Людамір Стасяк (ён і сакратар прэзідыума АК ФАН) і пасля кароткай прамовы (прамову друкуем) пачаў уручаць прысутным высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Кожнаму паціскаў руку і складаў пажаданні. Тут жа за ім набліжаліся да ўзнагароджаных і складалі ім віншаванні сакратар Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа Зоф'я Томчык, намеснік кіраўніка адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП Веслаў Ацепка, сакратар нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП — Уладзіслаў Скшыпчак, намеснік міністра ўнутраных спраў — Багуслаў Стахура, дырэктар грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Зыгмунт Арлоўскі, старшы інспектар грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента МУС Веслаў Тамаля і спецыяльна прыбыўшы на гэту ўрачыстасць кіраўнік грамадска-адміністрацыйнага аддзела Упраўлення ўнутраных спраў Прэзідыума ВРН у Беластоку Мікалай Куц.

Калі сакратар Рады Дзяржавы Людамір Стасяк закончыў уручэнне ўзнагарод, ён тады запрасіў усіх прысутных на традыцыйную «чарку віна». У гэты час ад імя ўсіх узнагароджаных выступіў сакратар Галоўнага праўлення ўкраінскага таварыства Рыгор Баярскі. Ён падзякаваў за высокія ўзнагароды і запэўніў, што нацыянальныя грамадска-культурныя таварыствы не будуць ашчаджаць сіл у мабілізаванні сваіх асяроддзяў да актыўнага саўдзельніцтва ў будове штораз прыгажэйшай супольнай айчыны.

Хутка ўтварылася тут вельмі сардэчная атмасфера. Адны другім паціскалі рукі, складалі пажаданні, вялі гутаркі, а пасля з прадстаўнікамі ўлад паасобныя нацыянальныя групы рабілі здымкі.

Пасля паехалі мы ў Варшаўскі аддзел БГКТ і там зноў спаткаліся з Уладзіславам Скшыпчакам з ЦК ПАРП і Веславам Тамаляй з МУС — беспасрэднымі нашымі апекунамі. Тут далей у святочным настроі працягваліся сардэчныя размовы. Дамоў вярталіся мы ва ўзнёслым настроі, з пачуццём таго, што высокія дзяржаўныя ўзнагароды абавязваюць нас да яшчэ лепшай працы.

Ніжэй друкуем прозвішчы ўзнагароджаных:

Камандорскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы ўзнагароджаны старшыня ГП яўрэйскага таварыства **Э. Рэйбар.**

Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы — старшыня ГП БГКТ **М. Хмялеўскі,** сакратар ГП ЯГКТ **Р. Гуткоўска** і старшыня ГП УГКТ **М. Каролька.**

Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы атрымалі: член ГП БГКТ, галоўны рэдактар тыднёвіка «Нівы» **Г. Валкавыцкі;** сакратар ГП УГКТ **Г. Баярскі;** намеснік старшыні ГП чэхаў і славакаў, галоўны рэдактар месячніка «Жівот» **А. Халюпэц;** член прэзідыума ГП РГКТ, старшыня гуртка ў Вайнове (Ольштынскае ваяводства) **А. Макароўска;** дзеяч БГКТ з Гарадка **Н. Мушынска;** намеснік старшыні ваяводскага праўлення НГКТ у Валбжыху — **Ф.**

Працяг на стар. 4

## ПРАМОВА ЛЮДАМІРА СТАСЯКА – САКРАТАРА РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ ПНР

**Паважаныя грамадзяне!**

**Ад імя Рады Дзяржавы ПНР і Прэзідыума Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа сардэчна вітаю вас напярэдадні гадавіны ўтварэння Народнай Польшчы.**

**Вы з'яўляецеся прадстаўнікамі шматлікай грамады членаў нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў, якія ўваходзяць у склад і актыўна дзейнічаюць у рамах камітэтаў Фронту адзінства народа.**

**Дзейнасць вашых таварыстваў у асяроддзях нацыянальных меншасцей спаўняе вялікую ролю ў працэсе фармавання і забеспячэння грамадска-культурных патрэб гэтых асяроддзяў. Чвэрць стагоддзя існавання Народнай Польшчы — гэта найбольш знамянальны перыяд у гісторыі нашай айчыны.**

**З краіны гаспадарча адсталай, разрыванай класавымі і нацыянальнымі супярэчнасцямі, зруйнаванай затым гітлераўскай навалай, мы змаглі пад кіраўніцтвам Партыі ператварыць Польшчу ў развітую краіну, якая займае пачэснае месца сярод еўрапейскіх дзяржаў і хуткім крокам набліжаецца да перадавых.**



Фота Цаф — Р. Сянько

**Народная Польшча сёння — гэта краіна развіваючайся вялікай прамысловасці, адноўленай і мадэрнізуючайся сельскай гаспадаркі, гэта маналітны сацыялістычны грамадска-палітычны арганізм, моцнае звяно ў сістэме сацыялістычных дзяржаў.**

**Дыяметральна змянілася таксама і нацыянальная палітыка Народнай Польшчы. Наша Народная дзяржава, сфармаваная ў справядлівых гістарычных і этнічных граніцах, ад пачатку свайго існавання прысвячала і прысвячае ў сваёй палітыцы шмат увагі нацыянальным меншасцям.**

**У аснове нацыянальнай палітыкі Народнай улады ляжаць ленінскія прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму, прынцыпы роўнасці і ўшанавання правоў кожнага грамадзяніна незалежна ад нацыянальнасці.**

**У перыяд 25-гадовага існавання ПНР наступіла рашучае паляпшэнне жыццёвага ўзроўню, культуры і асветы ўсіх нацыянальных асяроддзяў.**

**У многіх раёнах краіны, дзе пражывае украінскае, беларускае, літоўскае, славацкае насельніцтва, адзначаецца высокі ўзровень гаспадаркі і культуры. Нас радуюць факты, што сяляне — украінцы, літоўцы, беларусы і славакі часта з'яўляюцца перадавымі гаспадарамі, актыўнымі членамі сельскагаспадарчых гурткоў, прымяняюць навейшыя формы земляробства, тэрмінова выконваюць свае абавязацельствы перад дзяржавай, прымаюць актыўны ўдзел у працы грамадскім чынам.**

**Узраслі рады інтэлігенцыі, якая паходзіць з нацыянальнаменшасных асяроддзяў. Існуе шырокая сетка дзяржаўных школ і курсаў, на якіх навучанне вядзецца на роднай мове кожнай нацыянальнасці, або дзе вывучаецца родная мова.**

**Нацыянальныя таварыствы выкарыстоўваюць шырокі выбар рознабаковых форм культурна-асветнай і прапагандовай дзейнасці, сістэматычна павялічваецца колькасць і павышаецца мастацкі ўзровень існуючых аматарскіх гурткоў, шырока развіваецца чытальніцтва кніжак і прэсы на мовах асобных нацыянальных груп.**

**Імкнуся падкрэсліць факт усеагульнай сістэмы галасавання за кандыдатаў Фронту адзінства народа нацыянальных асяроддзяў у Сейм і рады нарадовыя, якая сведчыць аб высокай грамадскай і грамадзянскай актыўнасці.**

**Імкнуся падкрэсліць шырокую работу нацыянальных таварыстваў, якую разгарнулі яны ў перыяд адзначэння 25-годдзя Народнай Польшчы, работу, якая з'яўляецца важным укладам у справу папулярызацыі дасягненняў Народнай Польшчы, у працэсе фармавання інтэрнацыянальных і адначасова патрыятычных грамадскіх пастаў нацыянальных меншасцей.**

**Высокія дзяржаўныя ўзнагароды, прызнаныя вам па прапанове ФАН Радай Дзяржавы з'яўляюцца доказам прызнання вашай ахвярнай працы, грамадскай дзейнасці ў Фронце адзінства народа на карысць і для росквіту нашай Айчыны — Польскай Народнай Рэчыпаспалітай.**

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

## СВЕТ

### ДОСЛЕДЫ КОСМАСУ

У касмічным цэнтры ў Х'юстане працягваюцца аналізы грунту, прывезенага касманаўтамі з Месяца. У кавалках месячных каменняў знойдзена каля 60 розных хімічных элементаў. Аказалася, што ў месячным грунце выступаюць розныя вядомыя на Зямлі элементы, толькі ў іншых камбінацыях. Не знойдзена дагэтуль мінералаў, у якіх знаходзіліся б больш значныя сляды вугалю. Вучоным удалося таксама атрымаць адбіццё праменняў лазера ад спецыяльнага кварцавага люстра, пакінутага касманаўтамі на Месяцы. Эксперыменты з гэтым люстрам дазволяць вылічыць адлегласць ад Зямлі да Месяца з дакладнасцю да 15 сантыметраў, а таксама атрымаць шэраг новых дадзеных адносна Зямлі, як, напрыклад, тое, ці паасобныя кантыненты Зямлі перасоўваюцца і калі так, дык у якім напрамку. Адначасова касмічны зонд ««Марынер — 7» пераслаў на Зямлю шэраг фатаграфій планеты Марс. Дазваляюць яны бліжэй вывучыць гэтую планету. Як дагэтуль, здымкі не пацвярджаюць меркавання, што на Марсе існуюць нейкія формы жыцця.

### ЭДУАРД КЕНЕДЗІ

Сенатар Эдуард Кенедзі, брат забітага прэзідэнта, вяртаючыся аўтамашынаю з прыёму ў сяброў, з'ехаў з дрэнна азначанага мосту ў ваду. Аўтамашына ўпала ў ваду ўверх коламі. У выпадку загінула 29-гадовая пасажырка, былая сакратарка Роберта Кенедзі, якую сенатар падвозіў дадому. Эдуард Кенедзі з'явіўся ў паліцыі пасля 8 гадзін і 10 мінут. Суд засудзіў яго на 2 месяцы арышту з адтэрміноўкай за адыход з месца няшчаснага выпадку і нетэрміновую заяву ў паліцыю. Лічыцца, што гэты выпадак можа перакрэсліць палітычную кар'еру Кенедзі, які з'яўляецца асноўным прэтэндэнтам дэмакратаў на прэзідэнцкае месца.

### У КІТАІ

У Кітаі назіраецца новая хваля наступлення ў галіне культуры. Асаблівая атака накіравана на раман «Шанкхайская раніца», напісаны ў пачатку шасцідзесятых гадоў. Твору закідаецца, што прадстаўляе ён «контррэвалюцыйны напрамак Лю Шао-цы». Дзённік «Жэньміньжыбао» сцвярджае, што «нельга дазволіць, каб шкодныя раманы затруваді душы моладзі». Прадметам вострых атак сталі таксама даўно ўжо зробленыя тры кітайскія кінафільмы. З усёй дагэтуляшняй кінематаграфіі асталіся зараз да агляддання толькі 4 кінафільмы, якія па зместу датычаць пераможнай антыяпонскай вайны.

### У БЯФРЫ

Прадстаўнік Міжнароднага чырвонага крыжа паінфармаваў, што апошнім часам у Бяфры штодзённа паміраe з голаду звыш ста дзяцей.

### УЦЁК

13 членаў антыдзяржаўнай змовы ў Судане ўцякло за мяжу. Сярод іх між іншымі кіраўнік распушчанай Нубійскай уніі працы. (п)

## БССР

### ПАЎГОДДЗІ

Апублікаваны вынікі выканання Дзяржаўнага плана развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР у першым паўгоддзі 1969 года.

План першага паўгоддзя 1969 года па аб'ёму рэалізаванай прадукцыі выкананы на 103 працэнты. Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года склаў 11,7 працэнта.

Вытворчасць прадукцыі важнейшых галін прамысловасці павялічылася: у электраэнергетыцы на 14 працэнтаў, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці на 24 працэнтаў, машынабудаванні і металаапрацоўцы на 16 працэнтаў.

У сельскай гаспадарцы відавочны нязначны занепад авечкагадоўлі, хутка павялічваецца колькасць свіней, птушак. Напрыклад, калі ў мінулым годзе на дзень першага ліпеня налічвалася 1.611 тысяч штук свіней, дык у бягучым годзе на той жа дзень было 1.766 тысяч.

Паменшыўся продаж мяса і мясапрадуктаў, павялічыўся продаж рыб, масла, малочных вырабаў, хлеба, цукру. Безупынна павялічваецца продаж прадметаў хатняга ўжытку і выгады: тэлевізараў, пыласосаў, мэблі.

У галіне асветы вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы Беларусі выпусцілі сёлета 51 тысячу спецыялістаў. Агулам сярэднюю адукацыю атрымала сёлета 101 тысяча чалавек.

### КУЗНЯЙ

Кузняй інжынераў называюць Беларускі палітэхнічны інстытут. Зараз налічваецца тут 13 факультэтаў, існуюць філіялы вячэрняга навучання ў Віцебску і Жодзіне, у Гомелі і Наваполацку.

На 64 кафедрах інстытута — больш 1.100 асоб прафесарска-выкладчыцкага складу.

### ПАЛІГЛЮКІН

Паліглюкін — добры замeннік крыві. Гэты лек ведаюць у кожнай савецкай бальніцы, яго ахвотна купляюць і заграніцу, у Англію, Заходнюю Германію і інш.

Паліглюкін створаны на Мінскім заводзе медыцынскіх прэпаратаў. Апрача яго, спецыялісты прадпрыемства распрацавалі і падрыхтавалі ў мінулым годзе яшчэ адну навіну — прэпарат рэапаліглюкін з глюкозай. Прызначаны ён для сэрцава-сасудзістай хірургіі.

### ГІГАНТ

На Беларускім аўтамабільным заводзе ў горадзе Жодзіна змантаваны першы ў Саюзе ССР гігант-самазвал, грузападымальнасць якога дасягае 75—80 тон. Вышыня самазвала 4,5 метра, шырыня — 5 метраў і даўжыня 10 метраў. У гэтай машыне можа свабодна зммясціцца аднапакаёвая кватэра.

850-сілавы рухавік працуе разам з генератарам, што выпрабляе электраэнергію і перадае яе маторам, замантаваным у задніх колах.

### АДЗЕННЯ

На 20 мільёнаў рублёў адзення новых фасонаў выпусціць у гэтым годзе Мінская швейная фірма. Пачата ўжываць новыя высакаякасныя матэрыялы. Выраблены першыя ўзоры жаночых пальто са штучнага футра тыпу норкі на трыкатажнай аснове. Павялічыцца шыццё пальто джэрсі і інш. (ся)

## ПОЛЬШЧА

### ГАДАВІНА

1 жніўня пачаліся ўрачыстасці з нагоды 25-ай гадавіны Варшаўскага паўстання. Жыхары сталіцы запалілі свечкі і склалі вянкі на магілах паўстанцаў, перад помнікамі і мемуарнымі дошкамі. Цэнтральная ўрачыстасць складання вянкоў адбылася пад Помнікам героям Варшавы. На ўрачыстым вечары ў кангрэсавай зале Палаца культуры і навукі з прамоваю выступіў сакратар ЦК партыі Зэнан Клішка.

### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

Выдадзена шэраг пастаноў, мэтай якіх з'яўляецца рэарганізацыя прац урадавых органаў. Гаворыцца ў іх аб ўзмацненні планістычнай ролі камісіі планавання пры Радзе Міністраў. Гаворыцца таксама аб пашырэнні правоў паасобных міністраў пры адначасовым узмацненні эканамічнай ролі паасобных аб'яднанняў і прадпрыемстваў. Міністры возьмуць на сябе шэраг кампетэнцый, якія дагэтуль належалі да Рады Міністраў і эканамічнай камісіі Рады Міністраў.

### КАТАСТРОФА

У шахце «Генерал Завадскі» ў Дамброве Гурнічай здарылася трагічная катастрофа. Да падзямельных калідораў III аддзялення шахты ўварвалася значная колькасць вады, выклікаючы затапленне праходаў і абвалы пароды. У выніку гэтага 119 шахцёраў было адрэзана ад свету. Зараз жа пасля катастрофы пачалася энергічная акцыя ратавання заваленых. У выніку трохсутачнай ахвярнай акцыі 118 шахцёраў былі выратаваны. Адзін з шахцёраў у час катастрофы загінуў трагічнай смерцю. Пасля выратавання членаў рабочага калектыву шахты «Генерал Завадскі» I сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка і прэзэс Рады Міністраў Юзэф Цыранкевіч пераслалі выратаваным шахцёрам і іх сем'ям сардэчныя пажаданні поспехаў ў асабістым і сямейным жыцці. I сакратар і прэм'ер пераслалі таксама ўдзельнікам акцыі ратавання шахцёраў віншаванні і падзяку за іх геройства і ахвярнасць.

### ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ

Выпрадукаваная Варшаўскім прадпрыемствам імя Варынскага бульбакапалка здабыла на міжнародным кірмашы сельскагаспадарчых машын пад Ліпскам залаты медаль.

### РАМОНТ

У нядзелю 3 жніўня 700-асабовы калектыў металургічнага рамонтнага прадпрыемства закончыў трываючы ад 27 ліпеня рамонт мартэнаўскай печы у гуце імя Леніна. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### НАЙЛЕПШАЕ Ў КРАІНЕ

Беластоцкае Ваяводскае бюро геадэзіі заваявала першае месца ў агульнадзяржаўным спаборніцтве. З гэтай нагоды адбыўся сход працаўнікоў бюро, у якім між іншым прыняў удзел намеснік міністра сельскай гаспадаркі Ежы Попка. З дакладам аб дасягненнях Ваяводскага бюро геадэзіі выступіў дырэктар Славамір Давідзюк.

### ПАБЫВАЛІ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

70-асабовы аматарскі вучнёўскі мастацкі калектыў з Ломжы, якім кіруе Збігнеў Міхальскі, нядаўна быў запрошаны на пабыўку ў Гродзенскую вобласць. Маладыя самадзейнікі выступілі з канцэртамі ў Гродне, Валкавыску, Шчучыне, Воранаве і Поразаве. Апрача гэтага, члены калектыву мелі нагоду пазнаёміцца з памятнікамі культуры горада Гродна, з яго заводамі і прадпрыемствамі. Пабывалі яны таксама на кароткай экскурсіі, праязджаючы па Нёмане судном. Артыстаў-школьнікаў прымалі ўсюды вельмі сардэчна.

### ПЕРШАЯ ГАЗЕТА

Першай газетай, якая пасля вызвалення Беласточчыны пачала выходзіць у Беластоку, была «Еднось народова». Першы нумар гэтай газеты паявіўся 15 сакавіка 1945 года. Беластоцкія наборшчыкі складалі яе ўручную, бо не было патрэбных на гэта машын-аўтаматаў, зв. лінатыпаў.

### ПАЖАРЫ

Страшэнная спякота, якая апошнім часам наведала нашу краіну, спрыяе ўзнікненню пажараў. Толькі на працягу трох першых дзён жніўня супрацьпажарная служба Беластоцкага ваяводства зарэгістравала 32 пажары. Гарэлі дамы і гаспадарчыя будынкі, гінула ў агні жывёла і здараліся смяротныя апёкі ў людзей. У вёсцы Тарнопаль згарэла 2 гектары торфу, у вёсцы Семіхочы — дом, у вёсцы Завыкі — дом і 15 гаспадарчых будынкаў. Ратуючы жывёлу, загінуў у агні 70-гадовы жыхар гэтай вёскі Ўладзіслаў Філіпчук. У вёсцы Дзернякова згарэла амаль 10 гектараў лесу, у вёсцы Ляшукі — амаль 4 гектары лесу. Гэта толькі некаторыя прыклады страшэннай статыстыкі. Пажары ўзнікаюць найчасцей па прычыне неасцярожнасці людзей.

### ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ — ТАННЕЙШЫЯ

Пачаўшы ад 1 жніўня, уведзены сезонныя цэны на штучныя ўгнаенні. Цэны гэтыя ніжэйшыя ў сярэднім на 15 працэнтаў ад нармальнай цаны. Для прыкладу: амонавая салетра, якая нармальна прадаецца па 267 зл., у месяцы жніўні прадаецца па 232 злотых. Гэта добрая нагода для гаспадароў, каб танней купіць штучныя ўгнаенні.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

У Дуброўскім павеце за перыяд першага паўгоддзя гэтага года грамадскім чынам выканана розныя работы, вартасць якіх ацанілі на звыш 700 тысяч зл. Між іншым пралажана тры кіламетры брукаванай дарогі, перабудавана дзве школы і залесена 15 гектараў сельскагаспадарчых няўгоддзяў. (вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA, 10.VIII.**

9.00 Program dnia. 9.05 „Przypominamy, radzimy". 9.30 „Miasto nad Newą" 10.00 „Zawody o błękitny namiot". 10.50 „Genialny plan pułkownika Krafta" — film TVP („Stawka...) 11.45 „Było wesele" film. 12.00 Dziennik TV. 12.15 Przerwa. 14.05 Program dnia. 14.10 „Przemiany". 14.40 „W starym kinie". 15.45 „Żniwa" („Piórkiem i węglem"). 16.10 „Z dawnych epok". 16.45 Felieton tv. 17.00 „Ojciec i syn" film. 17.35 „Spotkanie z pisarzem" — Maria Kuncewicz. 18.05 „Debiuty — Opole 69". 18.50 „Kadryl w Janowie" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 19.50 „Republika Pinczowska". 20.15 „Portret Jennie" — film. 21.40 PKF. 21.50 „Klub prof. Tutki" — film. 22.05 Wiadomości sportowe.

**PONIEDZIAŁEK, 11.VIII.**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Opowieści ze świata zwierząt". 17.25 Echo stadionu". 17.50 „Dzień w Finlandii" — film. 18.10 „Problemy stali". 18.35 „Magnetofony pradziadków". — film węg. 18.50 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 Teatr TV: — „Takie czasy". 21.20 Wszechnica TV: „Nasi uczeni". 21.50 Dziennik TV.

**WTOREK, 12.VIII.**

10.00 „Lebiediew contra Lebiediew" — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Wysokogórskie jeziora Bułgarii" — film. 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Lebiediew contra Lebiediew" — film radz. 21.30 „Dwie ulice" — rep. film. 22.10 Dziennik TV.

**ŚRODA, 13.VIII.**

10.00 „Zakątek piekła" — film. 10.50 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Teleferie". 18.30 PKF. 18.40 Magazyn ITP. 18.50 „Latarnik" — film czechosł. 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Zakątek piekła" — film. 20.50 „Światowid". 21.20 „Młodzieżowe rytmy" — koncert laureatów II Ogólnop. Fest. Młodzież. 22.05 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 14.VIII.**

16.40 Program dnia. 16.45 „Przypominamy, radzimy". 16.50 Dziennik TV. 17.00 Telereklama. 17.15 TV Kurier Kielecki. 17.30 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.05 „W tanecznym kręgu" — film. radz. 19.00 „Gawędy o współczesności". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.10 „Wybitni polscy artyści wykonawcy". 20.45 „Stawka — nowoczesność". 21.15 „Oskarżenie" — film USA. 22.50 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 15.VIII.**

10.00 „Przygody Pinokia" — film wł. 11.30 Przerwa. 16.45 Program. dnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 „Teleferie". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Pieczone gołąbki" — film. 22.10 Dziennik TV. 22.25 Magazyn sportowy.

**SOBOTA, 16.VIII.**

10.00 „Pieczone gołąbki". 11.30 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.25 Program tygodnia. 16.50 Dziennik TV. 17.00 Publicystyka sportowa. 17.20 „Spotkania z przyrodą". 17.45 Mistrzostwa Polski w lekkoatletyce. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 Teatr — „Dziewczęta w zasłonach". 21.10 Dziennik TV. Wiadomości sportowe. 21.30 Kino Interesujących Filmów: „Sportowe życie" — film ang.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

(паводле маскоўскага часу)

**8 жніўня, пятніца**

10.00 Навіны; 10.15 «Цуды прыроды»; 10.30 Г. Успенскі; 12.00 «Сто задум двух сяброў»; 12.30 У эфіры «Маладосць»; 15.35 «Прыгоды» Арцёмкі»; 17.00 Навіны; 17.10 «Экран збірае сяброў»; 18.10 «Панарама навін»; 18.25 «Час Радзімы»; 19.45 Мастацкая гімнастыка; 21.00 «Эстафета навін»; 21.45 Кампазітар Арам Хачатуран; 22.25 Месячнік савецка-в'етнамскай дружбы; 23.05 «Сказ пра халопа Нікішку», фільм-балет; 23.50 «Толькі факты».

**9 жніўня, субота**

8.55 Праграма перадач; 9.00 —Гімнастыка; 9.45 Навіны; 10.00 Музычная вясёлая праграма; 10.30 «Навука — вытворчасць»; 11.00 «МАЗу чвэрць стагоддзя»; 12.00 «Тыдзень планеты»; 12.20 «Музычная шкатулка»; 12.30 «Размова ў райкоме»; 13.30 Для дзяцей: «Алёша Пціцын выпрацоўвае характар»; 14.40 «Будаўнік»; 15.30 «Чалавек зямлі маёй», «Максімаўна»; 16.00 Казка пра шэрую зорачку, залатую рыбку і брыдкае качаня»; 17.30 «Падпольны фронт» (Польшча); 18.00 Адкрыццё IX Усесаюзнай спартакіяды прафсаюзаў СССР; 18.30 Чэмпіянат СССР па футболу; 21.00 «Ленінізм — сцяг нашай эпохі»; 21.30 «Каралеўская рэгата», фільм. Канцэрт народнага артыста СССР Р. Бейбутава.

**10 жніўня, нядзеля**

8.55 Праграма перадач; 9.00 «На зарадку станавіся!»; 9.15 Навіны; 9.30 «Будзільнік»; 10.00 «Музычны кіёск»; 10.30 «64x100», шахматна-шашачны клуб; 11.30 «Скарбы Ленінграда»; 12.00 «Прывітанні нашых сяброў». Перадача з Варшавы; 12.45 Навіны; 13.00 «Сельская гадзіна»; 15.30 «Дзень будаўніка»; 16.00 Канцэрт майстроў мастацтваў; 16.30 Для воінаў Савецкай Арміі; 17.00 «Падпольны фронт»; 18.20 Навіны; 18.30 «Клуб кінападарожнікаў»; 19.30 Чэмпіянат СССР па футболу. У перапынку «Навіны»; 21.15 Міжнародная праграма; 22.00 «Вольны вецер» фільм; 23.30 «Спартыўны дзённік».



Беларускую народную песню «Мой міленькі захварэў» выконвае жаночая група ансамбля,

# „Свіцязь мая Свіцязь!"

Навагрудскі ансамбль песні і танца «Свіцязь» Гродзенскай вобласці ад 14 да 19 ліпеня прабываў на Беласточчыне і даў канцэрты ў Беластоку, Аўгустове, Кольне, Ломжы і Гайнаўцы. У паветах у тэты час адбываліся ўрачыстыя акадэміі (з удзелам прадстаўнікоў улад з Гродзеншчыны), прысвечаныя 25-ай гадавіне існавання Народнай улады ў Польшчы.

На такую ўрачыстую акадэмію мы спецыяльна паехалі ў Гайнаўку, каб пабыць там на канцэрце ўспомненага ансамбля. (Аб акадэміі ў Гайнаўцы мы ўжо пісалі). Вось там у кулуарах дома культуры «Гурнік» мы і пазнаёміліся з некаторымі членамі ансамбля, а даўжэйшую гутарку правялі з харэографам Янкам Хворастам і загадчыкам аддзела райсавета ў Навагрудку Уладзімірам Серамяжкам. Даведаліся мы ад іх аб гісторыі ансамбля, аб яго мастацкіх кіраўніках, аб канцэртах на Беларусі, аб людзях і т. д. А асабовы склад «Свіцязі» даволі цікавы. У ім і рабочыя са швейнай фабрыкі, з промкамбіната, завода газавай апаратуры, валянка-лянцавай фабрыкі, служачыя, настаўнікі, медыцынскія работнікі, культработнікі, працаўнікі друкарні і вучні сярэдніх школ. Адным словам, такія людзі, якія любяць спяваць, танцаваць, дэкламаваць.

І вось пачынаецца канцэрт. Прыгожая дзяўчына — канферансье вітае прысутных з наступаючым святам Адраджэння Польшчы і запавядае песню «Ён нарадзіўся вясной», а пасля «Беларусь-Радзіма». Выканаўцы ўзнагароджваюцца бураю апладысментаў. У рэпертуары ансамбля ёсць цэлая серыя беларускіх народных песень: «Баба Еўка, дзед Тамаш», «Там каля млына», «Прымакі», «Гневаецца маці», «Ой, не кукуй, зязюленька» і іншыя. Усе яны ўспрымаюцца прысутнымі цёпла і з вялікім задавальненнем.



На заканчэнне канцэрта — кветкі ад гайнаўшчан.

Мужчынская і жаночая група ансамбля таксама захаплялі ўдзельнікаў акадэміі прыгожасцю спеву.

Акрабатычны эцюд В. Аніщчык і паветранная гімнастыка на канаце ў выкананні Г. Дзяшчук (абедзьве — удзельніцы народнага цырку) выклікала ва ўсіх незвычайнае ўражанне.



Фрагмент харавога калектыву.

У праграме ансамбля было тры танцы: «Крыжачок», «Руская кадрыль» і «Трояк» (польскі танец), дзе была магчымасць пабачыць таленавітых танцораў з Навагрудчыны. На асобае падкрэсленне заслугоўвае вакальна-харэаграфічная кампазіцыя «Свіцязь», у якой часта паўтараліся словы «Свіцязь, мая Свіцязь». Яна зачаравала гледачоў. Гэта было нешта незвычайна прыгожае, казачнае. Тут усё дасканала падрыхтавана: і дэкарацыя, і дэкламацыя, і песня, і музыка, і танец. А ўжо народныя касцюмы артыстаў былі вельмі прыгожыя. Гайнаўшчане з задавальненнем выйшлі з канцэрта і доўга будуць памятаць самадзейнікаў з Гродзенскай вобласці.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота А. Карпюк



Польскі народны танец «Трояк».

# БГКТ

## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА

25 ліпеня адбылося пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення. Быў абмеркаваны і зацверджаны бюджэт БГКТ на 1970 год. Да новых раздзелаў, у якіх прадбачаны грашовыя сумы на новыя дзялянкі дзейнасці БГКТ належаць: конкурс на выкананне беларускіх песень, конкурс на стварэнне рэпертуару для асноўных мастацкіх калектываў, фатаграфічны конкурс для аматараў, спаборніцтвы аддзелаў на найлепшую дзейнасць і г. д. Запэўнены таксама пэўныя сумы на апрацаванне патрэбных дакладаў для лектараў аддзелаў і ГП, а таксама і для гутарак па радыёвузлах. Трэба ўспомніць таксама і аб паважных грашовых сумах, прызначаных на рамонт музея і памяшкання ГП.

## ФЭСТЫН У НОВЫМ ВОСТРАВЕ

Адным з актыўнейшых гурткоў Беларускага таварыства ў Сакольскім павеце з'яўляецца гурток у Новым Востраве. Менавіта таму праўленне аддзела прыхілілася да просьбы нававостраўцаў, каб фэстын, прысвечаны 25-ай гадавіне Народнай Польшчы, адбыўся ў іх вёсцы. Моладзь Новага Вострава шмат папрацавала, каб месца фэстыну зрабіць прыгожым і выгадным. Існуючую ад нядаўна танцавальную пляцоўку абсадзілі бярозамі, па якія ездзілі ў лес. Самаходныя дзве прычэпы таксама абставілі бярозамі, правялі электрычнае святло, парабілі лозунгі, лаўкі, пазносілі крэслы, адным словам, зрабілі ўсё, каб выглядала па-святочнаму. І пагода ў гэты дзень была быццам бы па заказу — многа сонца і ветру не было.

Каля дванаццатай гадзіны 27 ліпеня на месца фэстыну пачалі збірацца людзі, пачалі прыбываць яны і з суседніх вёсак. А 14-ай гадзіне пачалася ўрачыстасць.

На прэзідыяльную трыбуну за старшынёй мясцовага гуртка БГКТ Іванам Грыцам і солтысам Іванам Бойгузам увайшлі старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі і сакратар Іван Зенюк, член прэзідыума Сакольскага аддзела Аляксандр Казлоўскі, намеснік каменданта павятовай міліцыі Анатоль Садоўскі і старшыня грамадскай рады нарадовай у Гуранах Мікалай Куклік. Кароткай прамовай і прывітальнымі словамі адкрыў фэстын старшыня нававостраўскага гуртка Іван Грыц. Пасля з дакладам выступіў інструктар ГП на Сакольскі аддзел Анатоль Севест'янюк. Змест даклада датычыў дасягненняў Народнай Польшчы ў будаўніцтве сацыялізма. Шмат у ім гаварылася аб дасягненнях Беласточчыны, а ў тым ліку і беларускага насельніцтва на працягу чвэрці стагоддзя нашай Народнай дзяржавы.

Пасля даклада пачалася мастацкая частка. Першым выступіў гарадоцкі хор. Мікалай Матэйчык пазнаёміў прысутных з гісторыяй хору і ўспомніў аб заслужаных і два тыдні таму назад узнагароджаных высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі двух дзеячах хору і Гарадоцкага аддзела БГКТ — Ніне Мушынскай і Ніне Цыванюк.

Пасля кожнай песні, выкананай гарадоцкім хорам, доўга працягваліся апладысменты прысутных. Захапляліся гледачы гарадоцкімі дзяўчатамі і жанчынамі, якія так прыгожа спявалі беларускія песні, сярод якіх большасць была народных.

Калі са сцэны, зробленай з двух самаходных прычэпаў, сышлі гарадоцкія самадзейнікі, на яе «ўварвалася» з музыкай і танцам «Лявоніха» — эстрада ГП «Лявоніха». Захапляліся ёю прысутныя, а асабліва маналогамі Янкі Крупы і яго танцавальнымі нумарамі, якія ён выконваў разам з Оляй Андрэюк. Пасля заканчэння канцэрта «Лявоніхі» забава працягвалася амаль да раніцы.

Па-суседску з местам фэстыну, у мясцовай школе пры традыцыйнай чарцы віна адбылася сустрэча прадстаўнікоў улад гарадоцкага жаночага хору і эстрады «Лявоніха» з членамі мясцовага гуртка БГКТ, які цесна супрацоўнічае з гуртком Саюза сялянскай моладзі.

# 25 год беластоцкай прамысловасці

На працягу мінулага 25-годдзя на Беласточчыне адбудаваны або пабудаваны наступныя прамысловыя прадпрыемствы:

**ПЕРЫЯД 3-ГАДОВАГА ПЛАНА:**

Адбудаваны лесапільныя заводы ў Плацічне і Аўгустове, прадпрыемства «Ц» воўнакамбіната і паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку, ткальная фабрыка ў Васількове, пачалася будова рашарні ў Бельску Падляшскім і Беластоку.

**ПЕРЫЯД 6-ГАДОВАГА ПЛАНА:**

Пабудавана або пачалася будова такіх прадпрыемстваў, як:

Баваўняны камбінат Фасты,
Баваўняны камбінат у Замброве,
Рашарня ў Элку,
Фабрыка прылад і ўхвытаў у Беластоку,
Беластоцкі піваварны завод,
Піваварны завод у Сувалках,
Мазурская фабрыка тытунёвай прамысловасці ў Аўгустове,
Крэйдавае прадпрыемства ў Мельніку (Сямяціцкі павет),
Лесапільны завод у Чорнай Беластоцкай.

**ПЕРЫЯД 5-ГАДОВЫХ ПЛАНАЎ 1956—1968**

Прадзільня, ткацкі каляровы цэх і фарбавальня ў камбінаце Фасты,
Ткацкі цэх у бавоўнакамбінаце ў Замброве,
Швейнае прадпрыемства ў Сувалках,
Трыкатажнае прадпрыемства ў Кольне
Прадпрыемства пасмантэрыйнай прамысловасці ў Граеве,
Прадпрыемства драўнінай прамысловасці ў Гайнаўцы (мадэрнізацыя),
Прадпрыемства стружкавых пліт у Сувалках,
Мясакамбінат у Беластоку,
Крухмальны камбінат у Ломжы,
Піваварны завод у Ломжы,
Малачарні ў Бельску Падляшскім, Галдапі, Простках, Гайнаўцы, Высокім Мазавецкім, Замброве, Ломжы, Сямяцічах, Філіпаве і Дуброве Беластоцкай,
Прадпрыемствы па перапрацоўцы фруктаў і гародніны ў Высокім Мазавецкім і Беластоку,
«Спомаш» — прадпрыемства, прадукуючае машыны і прылады для спажывецкай прамысловасці ў Беластоку,
Завод зборных канструкцый у Беластоку, а таксама керамічныя заводы ў Сядлісках і Златорыі,
Сілікатны завод у Беластоку,
Фабрыка абутку ў Аўгустове,
Газоўня ў Беластоку,
Электрацяплоўня ў Беластоку.

**ПРАДБАЧВАЕЦЦА ЗАКОНЧЫЦЬ АБО ПАЧАЦЬ БУДОВУ ДА 1970 ГОДА:**

Паліграфічны завод у Беластоку,
Шклозавод у Беластоку,
Аддзел фабрыкі прылад і ўхвытаў у Бельску Падляшскім,
Элеватары ў Граеве і Сувалках,
Сілікатны завод у Аўгустове,
Завод струнабетонных шпалаў у Сувалках,
Шаўковы завод у Ломжы,
Фабрыка мэблі ў Ломжы,
Малачарні ў Моньках і Кольне. (ак)

# ЧУ ГЕВАРА І ВЕРКА ПАДПОЛЬШЧЫЦА

Чу Гевара на працягу кароткага часу стаў постаццю — сімвалам, узорам для мільёнаў маладых людзей ва ўсім свеце, якія на яго прыкладзе вучацца жыць і паміраць за вялікія ідэі. Яго дзённік — сухі і зусім нерамантычны пераказ клопатаў ізаляванага рэвалюцыянера ў балівійскіх джунглях — перакладаецца на розныя мовы свету і чытаецца мільёнамі маладых людзей.

Што, менавіта, з'яўляецца тым захапляючым у жыцці і адносінах Чу Гевары? Асабісты сябра і прыяцель Фідэля Кастра, быў ён яго саратнікам у баях за вызваленне і сацыялістычную рэвалюцыю на Кубе. Калі рэвалюцыя перамагла. Чу Гевара меў, здавалася б, усё, чаго можа жадаць сабе чалавек: гонар, славу. уладу, выгаднае жыццё чалавека, які дайшоў да найвышэйшай годнасці і пасад у дзяржаве. Чу Гевара пакідае аднак усё — уладу, спакойнае жыццё, на нейкі час знікае зусім з арэны палітычнага жыцця, знікае на тое, каб праз нейкі час свет даведаўся аб ім як аб вялікім героі-рэвалюцыянеры, загінуўшым у няроўным баі з урадавымі сіламі Балівіі. Чу перабраўся з Кубы ў джунглі Балівіі, каб арганізаваць там рэвалюцыйную партызанскую барацьбу з мясцовым рэакцыйным рэжымам.

Пачын кубінскага рэвалюцыянера стварае аказію, каб напомніць, што беларусы мелі свайго «Чу Гевару». Была ім вядомая рэвалюцыянерка Верка — Вера Харужая. Падобна Гевару пакінула яна спакойнае, выгаднае жыццё ў Савецкай Беларусі, нелегальна пераступіла мяжу, каб на тэрыторыі буржуазнай Польшчы ўключыцца ў нелегальную рэвалюцыйную дзейнасць, у барацьбу за лепшае жыццё простых людзей. Вядзе між іншым працу ў падпольных арганізацыях сённяшняй Беласточчыны і Гродзеншчыны. Трапляе ў рукі санацыйных улад, якія саджаюць яе ў турму. З турмы пісала многа лістоў. Сябры сабралі іх і выдалі друкам. Выйшла арыгінальная, патрасаючая па сваёй вымове кніжка. Потым аб Веры пісалася многа — на беларускай, рускай і польскай мовах, напісалася некалькі кніжак аб яе жыцці і змаганні. Ніводная аднак з кніжак не дараўноўвае таму, што аб самой сабе магла сказаць сама Вера ў сваіх лістах да сяброў і блізкіх.

Лісты Веры Харужай паявіліся і на польскай мове ў карпатлівым выданні Аляксандры і Стэфана Бергманаў. Чытаючы іх, ахоплівае ў аднолькавай меры захапленне і здзіўленне. Захапляемся светлай, бязмежна аддавай ідэі постаццю Веры, а адначасова нельга не здзівіцца: у найбольш суровых турэмных умовах была яна абсалютна шчаслівай, задаволенай з сябе, са свайго жыцця і сваіх пачынанняў.

**«Якім цудоўным з'яўляецца жыццё, а яшчэ такое жыццё, якім я жыву! Каханая, цудоўная работа, адзіныя ў сваім родзе ўмовы працы і найшырэйшы размах наперакор усялякім перашкодам. Якая ж я шчаслівая!»**

Так пісала падпольшчыца Вера з Польшчы да свайго таварыша С. у Савецкім Саюзе на коратка перад сваім арыштам. А трапіўшы ў турму, у першым сваім лісце да маці заяўляла:

**« Для нас, перапоўненых непарушнай верай у слушнасць нашай справы, перапоўненых надзеяй на лепшую будучыню — нават турма не з'яўляецца турмою».**

А ў іншым лісце да маці ставіць рашучае, інтрыгуючае пытанне:

**«Скажы, ці камусьці на свеце можа быць лепш, чым мне? А некалькі гадоў здзекаў, пакутаў і голаду — гэта дробязь, дадасць толькі гарту, зацятасці і энергіі. Буду больш любіць свабоду, больш ненавідзець ворагаў, лепш працаваць».**

Прасядзеўшы ўжо некалькі гадоў у суровым турэмным зняволенні, рэвалюцыянерка Верка адзін са сваіх лістаў пачынае так:

**« Баюся, што ліст гэты будзе не лістам, а песняй — столькі розных пачуццяў напаўняе маю душу і сёння, і ўчора, і цэлы дзень — амаль заўсёды. Хочацца танцаваць, спяваць, бегчы наперад далёка, далёка ў сонечную, заласцістую, асеннюю далячынь».**

Адкуль гэтая радасць і пачуццё найпаўнейшага шчасця ў суровых, нечалавечых умовах турэмнага зняволення? Вера Харужая дае сама на гэта адказ у сваіх лістах. Выцякае яно з пачуцця неразрыўнай сувязі зняволенай дзяўчыны з тысячамі аднадумцаў — рэвалюцыянераў, з усё нарастаўшым рэвалюцыйным рухам, з рытмам гісторыі, з вялікімі ідэямі чалавецтва, перамога якіх з'яўляецца няўхільнай.

У краіне ўжо шэраг гадоў ідзе дыскусія над ідэйным выхаваннем моладзі. Шукаюць узораў, з якіх моладзь магла б браць прыклад і натхненне, вучаць, як жыць, каб жыццё было годным і прыносіла задавальненне. Для беларускай моладзі ў Польшчы не бачу лепшага ўзору, чым постаць Веры Харужай. І таму кніжка з яе лістамі павінна быць у кожнай школе, у руках кожнага выхаваўцы і гісторыка.

**У. Паўлючук**

## ПЕРШЫ ЎРАДЖАЙ

На Сакольшчыне ў мінулым годзе ў вёсках Гураны, Свідзялоўка, Грыбоўшчына, Паўднёвы Востраў, Паўночны Востраў, Новы Востраў, Вярхлес і іншыя, была закончана камасацыя зямлі. У гэтым годзе сяляне гэтых вёсак здымаюць першы ўраджай. Ураджай гэты багаты, таму што людзі маглі на сваіх шырокіх дзялянках рассяваць мінеральныя ўгнаенні ды вясці апрацоўку зямлі сучаснымі машынамі. Сялянам стала лягчэй гаспадарыць і лягчэй дабівацца вышэйшых ураджаяў. (мх)

Пачатак на стар. 1

# Высокія ўзнагароды для дзеячаў нацыянальных таварыстваў

**Мюлер** і старшыня ГП РГКТ — **Ю. Трэцякоўскі.**

Залатыя Крыжы Заслугі ўручаны 17 чалавекам. З Беларускага таварыства — сакратару ГП БГКТ **Я. Зенюку**, старшыні Гайнаўскага аддзела **А. Іванюку**, старшыні Сямяціцкага аддзела **А. Мартыновічу**, сакратару Бельскага аддзела **У. Раеўскаму**, працаўніку ГП **К. Хлябічу**, арганізайцынаму кіраўніку бельскага хору **В. Антыпюку**, актывісту БГКТ з Гарадка **Н. Цыванюк** і актывісту з Беластока — **Н. Вішнеўскай.**

Сярэбраныя Крыжы Заслугі атрымала 24 чалавек, а з БГКТ наступныя асобы: старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ **Ю. Бусловіч**, член ГП **С. Філіпюк**, інструктар ГП з Гайнаўкі **В. Бура.**

Бронзавыя Крыжы Заслугі атрымалі два чалавекі. З БГКТ — сакратар Міхалоўскага аддзела **А. Хлябіч.**

З нашага Беластоцкага ваяводства з літоўскага таварыства з Сэйненскага павета Залатыя Крыжы Заслугі атрымалі: **Я. Хмялеўскі** і **Я. Юркіўнас**, а Сярэбраныя Крыжы Заслугі — **Г. Марцінкевіч, В. Янкоўскі** і **Я. Рэкус.**

З украінскага таварыства з Галдапскага павета Сярэбраныя Крыжы Заслугі атрымалі **Б. Назаровіч** і **Е. Іванэк.**

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

## Даследванні Паўлючука

На старонках вядомага варшаўскага тыднёвіка «Агрументы» нр-ы 24 і 25 у чэрвені г. г., змешчана ў двух урыўках артыкул нашага рэдакцыйнага калегі Уладзіміра Паўлючука. Загаловак артыкула: «Аблічча праваслаўя». Аўтар аналізуе істоту беларушчыны на Беласточчыне, яе данацыянальны характар. «Беларушчына ў даным выпадку, гэта свядомасць этнічнага паходжання»... — сцвярджае аўтар, дайшоўшы да вызаду, што межы гэтай свядомасці пакрываюцца з межамі праваслаўя на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны, якое сярод хрысціянскіх рэлігій у найбольшай меры ўвабрала ў сябе этнічную, народную культуру.

Варта зазначыць, што Ул. Паўлючук дабіўся ўжо значных поспехаў у навуковых даследваннях, якія сустрэліся з высокай ацэнкай у колах вучоных. У навуковым перыядычным друку змешчана дагэтуль настуныя публікацыі Ул. Паўлючука: «Дэзінтэграцыйныя працэсы ў праваслаўных вясковых грамадскасцях». (Весь Вспулчэсна, 1967, нр 3), «Беларусы як этнічная група. Спроба сацыялагічнай інтэрпрэтацыі» (Студыя Сацыёлёгічнэ, 1968, нр 2), «Светапогляд адзінкі ў перыяд распаду традыцыйнай тэрытарыяльнай трамадскасці» (там жа, нр 3—4), «Касцёлы і секты — спроба тыпалогіі веравызнаўчых арганізацый і груп» (Студыя С. 1969, нр 1), «Каляндар і праваслаўныя святкаванні» (Беларускі Каляндар, 1968).

У сучасны момант на навуковым варштаце Уладзіміра Паўлючука новыя рэлігіязнаўчыя тэмы. (ся)

# У АДНОЙ СЯМ'І

Месцам пастаянных лагераў гарцэры Гайнаўшчыны выбралі вёску Рыбакі, што над Нарвай. Месца тут цудоўнае, бо і лес, і рака, і сенажаць, і што не менш важнае, вельмі зычлівыя людзі ў Рыбаках. Смела можна сказаць, што жыхары Рыбакоў зжыліся з гарцэрамі, а гарцэры — з сялянамі.

У Рыбаках паўстаў лагерны цэнтр гайнаўскіх гарцэраў. Ужо тут пабудавана кухня, сталовая, складзік на харчы і дасканалы памост на рацэ. Гэта ўсё створана грамадскім намаганнем, а першапланавая заслуга прыпадае тут воінам, якія супрацоўнічаюць з камэндай гуфца ў Гайнаўцы.

Камендантам сёлеташняга лагера быў знаны дзеяч гарцэрства настаўнік **Канстанцін Лапінскі.** Каб магчыма больш моладзі магло пабываць у лагеры, кіраўніцтва гуфца ЗГП вырашыла зрабіць два турнусы па 90 чалавек кожны. Задавальняючым, здаецца, быць той факт, што большасць удзельнікаў (прынамсі І турнуса) складала вясковая моладзь.

А вось як выглядае лагернае жыццё.



Пасля ўрачыстага адкрыцця ўсе ўдзельнікі лагера, і кадры, і гарцэры, атрымліваюць аднолькавыя гарцэрскія гальштукі, каб падкрэсліць, што ўсе яны складаюць адну сям'ю. Асноўнае заданне лагера — спалучыць адпачынак моладзі з падрыхтоўкай іх да працы ў гарцэрскіх дружынах. Рэалізацыя гэтага задання нялёгкая. Трэба мець апрацаваную цікавую праграму і добрых рэалізатараў яе. А гайнаўскаму лагеру хапала і аднаго і другога.

Найважнейшым праграмным лозунгам быў **«Айчыне — чырвоная кветка».** У лагеры адбываліся ўрачыстыя кастры, на якія масава прыходзілі людзі з акалічных вёсак. Адбываліся сустрэчы з людзьмі 25-годдзя. На адным з кастроў гарцэры сустрэліся з Ул. Паскробкам і Садоўскім з Рыбакоў — людзьмі, якія змагаліся за народную Польшчу. Хронікі лагера аднатавалі таксама дзень ЛОК-у. Гарцэры азнаёміліся з пажарніцкімі і санітарнымі спецыяльнасцямі. Інструктар Павятовага праўлення ЛОК **Сяргей Назарук** правёў тут стралковыя спаборніцтвы. Лагерная моладзь здабывала Маладзёжныя адзнакі абароннай спраўнасці. Толькі ў першым турнусе 17 гарцэраў здабылі сярэбраныя, а 43 — бронзавыя адзнакі МОСО. У часе заняткаў гарцэрская моладзь здабывала спраўнасці ПКВН, прыяцеля лясоў, адбываліся спартыўныя алімпіяды, на якіх моладзь здабывала спартыўныя адзнакі 25-годдзя.



У адну з нядзель дружыны выбраліся на разведку ў акалічныя вёскі: Гайдукоўшчыну, Ляўкова, Ваські, Цімахі і Адрынкі. Прадумана і цікава арганізавала разведку дружына **Ірыны Ігнатовіч.** Удзельнічала яна ў агульным сходзе спулдзельні прадукцыйнай у Васьках. Гарцэры пазнаёміліся з інвестыцыямі спулдзельні і наогул з тым, што змянілася ў 25-годдзі. З сабранага матэрыялу была зроблена прыгожая хроніка — манаграфія вёскі.

Аперацыя **«Залатое руно»** — гэта і

 

# У кругу жніўнай легенды



Як штогод у жніўны час, ідуць у поле сотні і тысячы трактароў ды жнярак. Жніво адбываецца хутка і спраўна без асаблівай стомы. Гледзячы на яго, мімавольна насоўваюцца параўнанні са жнівом гадоў трыццаць ці пяцьдзесят таму назад. Цяжкая, надрываючая сілы праца ад світання да змроку ў найдаўжэйшыя дні года. Праца манатонная, нудная, аднастайная, з сярпом у руках. Як людзі яе зносілі, як хапала ў іх сіл і цярплівасці?

Усю цяжкасць жніўнай працы народ адчуў аднак напярэдадні змены старых народных метадаў збору збожжа новымі, сучаснымі. Раней, да канца XIX стагоддзя, калі ў нашых вёсках поўнасцю панавала яшчэ традыцыйная народная культура, фізічны цяжар жніўнай працы паспяхова лагодзіўся багата разбудаванай жніўнай абрадавасцю.

Жніво ў традыцыйнай вёсцы было не толькі перыядам, калі трэба выканаць акрэсленую працу на тое, каб потым мець запас хлеба. Было яно адначасова вялікай агульнавясковай урачыстасцю, фэстам, святкаваннем, паказам спраўнасці, умеласці і бадзёрасці. Жніўная праца адбывалася ў істотным культурным кантэксце: час і прастора гэтай працы мелі незвычайны, міфічны характар. Час жніва быў часам, прысвечаным толькі гэтай працы, часам калі ніхто з жыхароў вёскі не адважыўся сядзець бяздзейна — было б гэта вялікай знявагай вясковай традыцыі і ўстаноўленага стагоддзямі парадку. Жніво пачыналася ў акрэслены дзень тыдня — пятніцу або суботу, часам — панядзелак, ніколі — у аўторак, сераду ці чацвер. Сяляне тлумачылі гэта тым, што нельга пачынаць жніўнай працы ў тыя дні тыдня, у назве якіх ёсць гук «р», бо мышы будуць надта жыта грызці (гук «р» адпавядае ў нейкім сэнсе гуку мышынага грызення). Жніво пачынаў гаспадар з вялікай павагай і набожнасцю, з пашанай да гэтай працы.

Так, як час жніўнай працы не быў звычайным цягам падзей, падобна краявід у якім гэтая праца адбывалася не быў проста «прасторай». З акалічнымі пагоркамі, каменнямі, дрэвамі і рачулкамі звязаны былі канкрэтныя міфы і легенды. Размяшчалі яны ў гэтым краявідзе надзвычайныя, дзіўныя, вялікія падзеі і здарэнні, якія мелі адбывацца даўным-даўно. У час палявых работ селянін утрымліваў з гэтым напоўненым міфічным зместам краявідам непасрэдны, фізічны кантакт: піў у гарачае лета ваду з цудоўнай крыніцы, адпачываў пад незвычайнымі, поўнымі чараў дрэвамі, таптаў «святыя» пагоркі.

Не толькі аднак краявід палявой працы быў напоўнены міфічным зместам, змяшчала яго ў сабе сама праца. Народная легенда расказвае, што калісьці, даўным-даўно каласы раслі ад зямлі і да верху сцябла. Было гэта яшчэ тады, калі Бог у выглядзе старэчы — жабрака хадзіў сялянскімі дарогамі. Нейкая дурная жанчына сарвала жменю збожжа, каб ачысціць ім забруджанае гноем дзіця. Убачыў гэта Бог, разгневаўся і пазбавіў людзей увогуле хлеба. Толькі калі птушкі пачалі прасіць, каб іх так не крыўдзіў і дазволіў расці збожжу, Бог змяніў часткова папярэдняе рашэнне і дазволіў расці збожжу на канцы сцябла. «І дзякуючы птушкам мы жывём» — гаварылі, расказваючы легенду сяляне. А кожны загублены каласок падымалі з зямлі з пашанай і стараннасцю, перавышаючай далёка рацыянальны, эканамічны сэнс такой дбайнасці.

У вёсцы з вузкімі загонамі цераспалосіцы жніво мела агульнавясковы, грамадскі характар. Вострасць спаборніцтва ў працы паміж суседзямі лагодзілася размовамі, у якіх на момант праца спынялася расказваннем вясковых плётак, спяваннем жніўных песень. Апошнія таксама маглі быць формай спаборніцтва, а для моладзі — формай залётаў.

Найбольш аднак урачыста і весела адбывалася заканчэнне жніўнай працы — дажынкі. Радасці і смеху было тут шмат. Пачыналіся яны ад жартаў і песень пры зрэзванні апошняй жмені збожжа і вязанні гэтак званай «перапёлкі», а на пачастунку гаспадара з водкаю і песнямі — канчаючы. Такім чынам, жніўная праца — урачысты яе пачатак і заканчэнне, як і само яе выконванне, перапоўнены былі шэрагам культурных абрадавых элементаў, якія працы гэтай прыдавалі нейкі «вышэйшы» змест і сэнс, а тым самым рабілі яе больш зноснай і цікавай.

Зараз, калі на палях ракочуць трактары і шумяць жняяркі, а жніўная праца стала параўнальна лёгкай і хуткай, многія жніўныя абрады страцілі сэнс, а старыя легенды ў сучасным рацыяналізаваным жыцці нікога ўжо не цікавяць. Ці аднак пэўных элементаў жніўнай абрадавасці, — як хаця б вязанне жніўнай кветкі «перапёлкі» — не варта захаваць і зараз? Ці арганізаваныя ўладамі афіцыйныя дажынкі, на якія так мала прыходзіць сапраўдных жнеяў — гэта не замала для падтрымання пачуцця годнасці цяжкой працы хлебароба?

**У. Паўлючук**
Фота аўтар

прыемнасць, і карысць у найшырэйшым гэтага слова значэнні. Лясное руно гарцэры збіраюць, адбываючы экскурсіі. Збіраючы, выконваюць грамадскую працу. Адбываючы працу, праводзяць калектыўныя спаборніцтвы. Сабранае руно скупляе прадпрыемства «Ляс» у Гайнаўцы, якое напр., ягады і грыбы высылае нават на экспарт. Гайнаўскія гарцэры першага турнусу сабралі і прадалі чарніц больш чым па кілаграме на чалавека.

Частку з заробленых грошай перадалі на фонд дапамогі дзецям В'етнама.

Апрача гэтага, гарцэры лагера ў Рыбаках прынялі на сябе абавязацельствы з нагоды 25-годдзя Народнай Польшчы. Забавязаліся яны, што грамадскім чынам аполюць і будуць даглядаць 2 гектары рассаднікаў у Лядскай пушчы. Такую працу на карысць лясніцтва гарцэры выконваюць кожны год. Гэта ўдзячнасць за дапамогу, якую аказвае лясніцтва гарцэрам.

Вельмі добра ўкладаюцца суадносіны з суседнім гарцэрскім лагерам. Свае палаткі разбіў тут гарцэрскі лагер гуфца з Сахачэва. Сустрэчы, а таксама супольныя мерапрыемствы даюць дасканалую магчымасць да пашырэння кругагляду моладзі. Адначасова гарцэры з Сахачэва пазнаюць частку нашай гісторыі і культуры.

Гаворачы аб гайнаўскім лагеры ЗГП, нельга прамінуць вялікага ўкладу прадпрыемства «Лясных калеек» у Гайнаўцы, якое актыўна дапамагае камандзе гуфца ў перавозе ўдзельнікаў і прылад. Нельга не адзначыць таксама глыбокага разумення гарцэрскай справы, якое выказвае **Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы.** На пакупку лагерных прылад Прэзідыум прызначыў у гэтым годзе з бюджэтнай надвыжкі 90 тыс. зл. Шчырае дзякуй за аказанне сэрца гарцэрскай справе.

**А. Карпюк**
Фота Цаф — Р. Сянько



АДГАЛОСКІ

### СЕКТЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

«Нас усяляк называюць: і баптыстамі, і штундыстамі, і прастачкамі, мы не гневаемся — хай называюць, як хто хоча. Як павінна быць — я не ведаю. Я сябе называю веруючай і ўсё».

Так адказала жанчына з Маліннік на пытанне адносна назвы яе веры Уладзіміру Паўлючуку — аўтару цікавай працы: «Касцёлы і святы», надрукаванай у № 1 часопіса «Studia socjologiczne».

Апрача спробы класіфікацыі рэлігійных арганізацый аўтар займаецца ў гэтай працы доследамі над сектамі на Беласточчыне. Прыведзеная гутарка адносіцца да секты званай пяцідзесятнікамі. Вераць яны, што таксама, як на апосталаў, і на іх у час малення сыходзіць святы дух і тады яны атрымоўваюць магчымасць прарочання, аздараўлення хворых, гутарыць на розных мовах. Іх набажэнствы складаюцца з пабожных спеваў, пераплеценых кароткімі павучальнымі прамовамі паасобных членаў збору. Палкімі малітвамі яны даходзяць да экстазу, у час якога дастаюць параксізмаў, плачуць і выдаюць неартыкуляваныя воклікі.

Некаторыя групы пяцідзесятнікаў увайшлі ў склад Злучанага евангелічнага касцёла, які згуртаваў таксама некаторыя рэлігійныя абшчыны баптыстаў. Афіцыйная дактрына Злучанага евангелічнага касцёла збліжана да вызнаванай хрыстосавым касцёлам. Прыхільнікі гэтага касцёла адзначаюцца сузіральнай пабожнасцю і стараюцца знайсці пацеху ад штодзённых турбот і смуткаў у сцверджанні, што і зло і цярпенні з'яўляюцца элементамі божага плана і служаць дабру, бо вядуць да дасканаласці.

Падобную дактрыну прапаведвае касцёл хрысціян-баптыстаў, адна з найбольш распаўсюджаных у краіне рэлігійных арганізацый. Мае яна добра падрыхтаваныя прафесіянальныя кадры прэзбітараў, якія толькі фармальна выбіраюцца агулам верных. Членам касцёла становіцца дарослы пасля абраду хрышчэння. Падрыхтоўка да гэтага вядзецца ад дзяцінства.

Свабода веравызнання, якую запэўніла народная ўлада пасля вайны, прычынілася да аслаблення палкасці і рыгарызму. Баптысты, як і іншыя рэлігійныя меншасці, акцэнтуюць лаяльнасць у адносінах да дзяржаўнага і грамадскага ладу і таму адмовіліся ад некаторых прынцыпаў прыкладна, — ненашэння зброі, нябрання ўдзелу ў таварыскім і культурным жыцці.

Далейшай групай рэлігійных арганізацый з'яўляюцца адвентыстычныя веравызнанні. Асноўнай для іх з'яўляецца вера ў хуткі прыход на зямлю Хрыста. У Польшчы дзейнічаюць наступныя адвентыстычныя секты: «Касцёл адвентыстаў сёмага дня», «Касцёл хрысціян суботняга дня», «Таварыства вольных даследчыкаў свяшчэннага пісання», «Таварыства даследчыкаў свяшчэннага пісання», «Свецкі рух», «Епіфанія» і «Сведкі Яговы».

Усе яны вераць, што паколькі споўніліся ўсе прароцтвы біблії, мусіць споўніцца прадказанне аб паўторным прыходзе на зямлю Хрыста: страшным судзе. Яны займаюцца расшыфроўкай розных прароцтваў і рыхтуюцца да прыходу Хрыста. З гэтай мэтай яны святкуюць суботу, актыўна прапагандуюць «божае слова», аддаюць дзесятую частку сваіх даходаў абшчыне і дакладна выконваюць рашэнні кіраўніцтва абшчыны.

Крайняй фракцыяй адвентызму з'яўляюцца «Сведкі Яговы». Іх характарызуе выкарыстоўванне рэлігійнай аргументацыі да яўна палітычных мэт.

Творца гэтай секты Рутэрфорд паддае татальнай крытыцы ўсе грамадскія і палітычныя сістэмы. Людзі, паводле яго, не могуць стварыць справядлівага ладу, бо знаходзяцца пад уладай сатаны. Арганізацыямі сатаны з'яўляюцца ўсе арганізацыі на зямлі, за выключэннем «Сведкаў Яговы». Яе з'яўленне — гэта найбольшае здарэнне ў гісторыі, бо дало яно пачатак улады божай справядлівасці. Поўнасцю яна здзейсніцца пасля канчатковай перамогі Хрыста і ўстанаўленні яго каралеўства. Знамянальным з'яўляецца, што ў аснове ладу гэтага каралеўства палажана прыватная ўласнасць.

Калі ў аснове навукі баптыстаў ляжыць прынцып любві да бліжняга, то асноўнай у дактрыне «Сведкаў Яговы» з'яўляецца нянавісць да ўсяго вонкавага свету і гатоўнасць яго знішчэння, калі б «бог так захацеў».

Праца Паўлючука піянерская. Ён займаецца галіной, якая дагэтуль амаль што ляжыць аблогай. Развіццё сект як грамадская з'ява з'яўляецца настолькі цікавай, што аслабленне ўплываў афіцыйных касцёлаў, якое назіраецца ў сучаснасці, не наглядаецца ў адносінах да сект, а часам наадварот, ажыўленне іх дзейнасці выступае побач з аслабленнем афіцыйных касцёлаў.

Трэба пажадаць, каб аўтар працы паглыбляў свае даследванні ў гэтай галіне, а пры тэтым звярнуў большую ўвагу на класавыя асновы развіцця сект, да якіх аўтар аднёсся павярхоўна, перабольшваючы адначасова ролю такога фактара, як бездапаможнасць сучаснага чалавека ў абліччы пагрозы вайны, асабліва нуклеарнай.

Карэнні кожнай рэлігіі перш за ўсё класавыя ў капіталістычным ладзе. Рэлігію падтрымоўвае сітуацыя, створаная гэтым ладам для працоўнага народа. Не можна згадзіцца з поглядам, што рэлігійная ідэалогія, асабліва «Сведкаў Яговы», з'яўляецца вынікам упадку хіліястычнай веры ў каралеўстве райскай шчаслівасці ў сацыялістычных краінах, якая мела наступіць адразу пасля рэвалюцыі — у сутыкненні з цяжкасцямі і нястачамі. Такія ілюзіі маглі мець толькі адзінкі, а не грамадства, а прынамсі большасць працоўных мас, а цяжкасці і нястачы кампенсіруюцца аграмаднымі дасягненнямі сацыялістычнага грамадства.

Толькі прадстаўнікі звержаных грамадскіх класаў прыймаюць канец свайго панавання за канец свету, уцякаюць ад новай рэчаіснасці ў змрок касцёлаў. Толькі ў частцы, асабліва багацейшага мяшчанства праяўляецца расчараванне сацыялістычным ладам, які ліквідуе перспектывы авансу мешчаніна да буржуя.

Безумоўна, некаторыя адмоўныя праявы грамадскага і дзяржаўнага жыцця ў сацыялістычных краінах, як напрыклад бюракратыя, бяздушныя адносіны да чалавека з боку некаторых кіраўнікоў дзяржаўнага і гаспадарчага апарата, кумаўство і дзейнасць хэўраў і т. п. спрыяюць утрымоўванню рэлігійнасці. Але ў асноўным рэлігія — гэта перажытак мінулага ў псіхіцы працоўных мас.

**В. Склубоўскі**

## ВЯЛІКАЕ КУЛЬТУРНАЕ СПАБОРНІЦТВА

Ва ўсёй краіне праходзіць вялікае культурнае спаборніцтва. Адбываецца яно паміж рознымі культурна-асветнымі ўстановамі. Было аб'яўлена ў лістападзе 1968 года, а закончыцца ў 1972 годзе. Гэтае вялікае агульнакраёвае культурнае мерапрыемства, як і ўсе цяпер нашы акцыі, прысвячаем 25-ай гадавіне ПНР.

Заданне спаборніцтва — актывізаваць усе існуючыя святліцы, клубы, дамы культуры, бібліятэкі, усіх культурных дзеячаў.

На Беласточчыне на ўсе дзейнічаючыя культурныя ўстановы, якіх 1451, да спаборніцтва прыступіла 1104. На 2568 бібліятэк і бібліятэчных пунктаў, да спаборніцтва прыступіла 1861.

Пасля першага вясенняга агляду вядома, што добра спаборніцтва праходзіць у паветах: Сувальскім, Сакольскім, Ломжынскім, Сямяцінкім. Слаба — у Лапскім, Беластоку — горадзе і павеце, Алецкім, Элцкім і Гайнаўскім.

Паасобныя паветы паводле сваіх рэгіянальных традыцый, уводзяць у спаборніцтва новыя формы працы. Напрыклад, у Сувалках зрабілі конкурс на народную выразку з паперы, у Сямяціцкім — рыхтуюць дом памятак. (вл)



 

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ВЕНГРЫІ (2)**

ЗЯМЛЯ і ЛЮДЗІ

### СУСТРЭЧЫ

Будучы ў Будапешце, група нашых журналістаў мела шмат сустрэч з прадстаўнікамі Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі, венгерскага камсамолу (KIC) і вышэйшых устаноў Будапешта.

Сістэма пачатковага школьніцтва амаль такая ж, як у Польшчы. Розніца толькі ў тым, што школьны абавязак пачынаецца ад 6 год і што існуюць тут абавязковыя спецыяльныя школы, у якіх павінны вучыцца заквaліфікаваныя сюды дзеці да 16 год. З гэтай прычыны больш месца не буду прысвячаць гэтай тэме. Сканцэнтруюся на сярэднім і вышэйшым школьніцтве.

Кожная вышэйшая і сярэдняя школа абапіраюцца пры прыёме кандыдатаў на характарыстыку, апінію школы, якую кандыдат закончыў. Гэтая апінія мае аднак дарадчы характар, а рашаючым з'яўляецца вынік экзаменаў. Кандыдаты ў вышэйшыя ўстановы атрымліваюць адпаведныя пункты. З пунктамі справа выглядае наступна: напрыклад, кандыдат павінен здаваць экзамены па фізіцы і матэматыцы. І калі ён на працягу 3-ох год ў сярэдняй школе і на матуры меў пяцёркі, дык адразу з сярэдняй школы атрымлівае 10 пунктаў. На ўступным экзамене можна таксама атрымаць найбольш 10 пунктаў. Апрача таго, у сярэдніх школах Венгрыі арганізуюцца конкурсы па розных прадметах. Калі кандыдат у вышэйшую школу, напрыклад, утрымаўся ў першым дзесятку ў конкурсе, дык атрымлівае найбольшую колькасць пунктаў, а таксама звальняецца ад уступнага экзамена.

У Венгерскай Народнай Рэспубліцы існуе 89 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх вучыцца 52 тыс. студэнтаў. Каля 50% з іх мае магчымасць жыць у інтэрнатах; 80% карыстаецца студэнцкімі сталоўкамі, а каля 90% — атрымлівае стыпендыі Найніжэйшая стыпендыя ў месяц складае 100 фарынтаў, а найвышэйшая — 1600 фарынтаў (1 фарынт каля 1,20 зл).

### РОЛЯ САМОЙ МОЛАДЗІ

Велізарнае значэнне мае тут камсамольская арганізацыя, якая з'яўляецца



**Фрагмент касцёла на Замкавым узгорку ў Будзе. Гэта адзін з найстарэйшых і найпрыгажэйшых памятнікаў сталіцы Венгрыі.**

адзінай арганізацыяй моладзі сярэдніх і вышэйшых школ. Налічваецца ў ёй 780 тыс. членаў, з гэтага ліку 200 тыс. — у сярэдніх школах і 47 тыс. студэнцкай моладзі, г. зн., што 92,3% студэнтаў з'яўляюцца членамі камсамольскай арганізацыі.

Загадчык аддзела ЦК KIC інфармавала нас, што камсамол робіць тут вялікія намаганні, каб пазнаёміць студэнта са штодзённым жыццём, а таксама намаганні ў напрамку стварэння навучальных устаноў больш сучаснымі. Для кіравання гэтымі справамі створана, напр., агульнакраёвая рада па студэнцкіх справах, у якой прымаюць удзел студэнты, рэктары і прадстаўнікі зацікаўленых міністэрстваў. Згодна з пастановай, зацверджанай урадам, KIC атрымаў вялікія правы. Прадстаўнікі KIC-у прымаюць удзел у пасяджэннях рад навучальных устаноў, ва ўступных экзаменах, пры падзеле стыпендыі і месц у інтэрнатах. Асноўнае заданне KIC-у ў вышэйшых навучальных установах — выхаваць спецыяліста-камуніста, і гэтаму падпарадкаваны ўсе правы і абавязкі камсамольскай арганізацыі.

Вялікая ўвага прыдаецца тут падрыхтоўцы моладзі сялянскага і рабочага паходжання. Да 1963 года прызнавалі ім дадатковыя пункты за паходжанне. Зараз ужо не прызнаюць, але арганізуюцца ў сярэдніх школах спецыяльныя курсы, на якіх моладзь знаёміцца з паасобнымі кірункамі ў вышэйшых школах, а таксама атрымлівае патрэбную дапамогу ў навучанні.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ШКОЛЫ

У ВНР пражывае каля 500 тыс. чалавек іншых нацыянальнасцей — немцаў, паўднёвых славян, румынаў і славакаў. Пры міністэрстве асветы створаны спецыяльны аддзел, які кіруе справамі нацыянальных меншасцей. 49 параграф Канстытуцыі ВНР абвяшчае раўнапраўе нацыянальнасцей і гарантуе ім навучанне на роднай мове. Згодна з законам аб абавязковым навучанні, у тых вёсках і гарадах, дзе налічваецца не менш 15 дзяцей у школьным узросце адной нацыянальнасці, у **выпадку, калі бацькі або выхавацель выкажуць жаданне, каб навучанне дзяцей адбывалася на роднай мове, неабходна абяспечыць, каб дзеці роднай мове навучаліся і гэтая мова ў школе была абавязковай.**

Згодна з распараджэннем, якое мае сілу закона, ёсць ў ВНР два тыпы нацыянальных пачатковых школ:

— школы, у якіх навучанне адбываецца на нацыянальнай мове, а венгерская мова з'яўляецца абавязковай;

— школы, у якіх навучанне адбываецца на венгерскай мове, а нацыянальная мова навучаецца як абавязковы прадмет.

У Венгрыі існуе каля 25 пачатковых школ з нацыянальнай мовай навучання, з чаго аж 10 румынскіх і 255 школ, дзе нацыянальная мова выступае як абавязковы прадмет: 120 нямецкіх, 80 славацкіх і 32 сербска-харвацкія. Для чатырох меншасцей існуюць таксама 7 нацыянальных гімназій.

Газета «Непсава» ў маі г. г. пісала, што нацыянальная праблема фактычна не існуе, няма ніякіх канфліктаў між людзьмі паасобных нацыянальнасцей. Нельга ніколі забыць аб тым, што нашыя нацыянальныя меншасці спалучаюць нас з тымі суседзямі, на чыіх мовах гавораць. Не пярэчым, што і мы не адносімся абыякава да гэтага, як пражываюць у іншых краінах венгры і які іх там лёс, дзе з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю. Шчыра жадаем, каб усюды там, дзе пражываюць венгры, так выконваліся ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі, як мы гэта робім у сябе. Хацелася б, каб нашыя нацыянальныя меншасці сталі памостам да сэрцаў нашых суседзяў, — сцвярджае «Непсава».

**А. Карпюк**

КУЛІНАРЫЯ

### ПІРОГ З СУШАНЫМІ ЯБЛЫКАМІ

Начынку лепш гатаваць напярэдадні. 300 г сушаных яблыкаў памыйце, выражце рэшткі сарцавіны, пакладзіце ў эмаліраваную каструлю, заліце вадой так, каб зверху яблыкаў вады не было, і пастаўце ў духоўку на самы малы агонь гадзіны на тры. Калі яблыкі можна будзе размяшаць лыжкай на аднародную масу, пакладзіце 1 шклянку цукру, дайце астыць, потым усыпце 1 чайную лыжку крухмалу і яшчэ раз добра перамяшайце.

Вазьміце мукі столькі, каб замясіць некрутое цеста. Пакладзіце 100 г смятаны, 100 г сметанковага масла, 2 жаўткі, 1 бялок, 0,25 шклянкі цукровага пяску, 0,5 сталовай лыжкі смятанкі, 5 стоўчаных зярнят кардамону, 1/8 лыжкі солі, палавіну чайнай лыжкі соды. Замясіце цеста, добра вырабіце на працягу 30 мінут.

Звычайна прэснае цеста вельмі мала «падымаецца» пры выпечцы. Цеста, прыгатаванае паводле гэтага рэцэпта, «падымаецца» ў 2—2,5 раза.

Раскачайце цеста на пласт таўшчынёй у 0,5 см па велічыні бляхі або патэльні так, каб навокал атрымаўся «борцік» вышынёй 1—1,5 см. Пакладзіце на цеста начынку таўшчынёй у 2—2,5 см, разраўняйце, прыгніце «борцік» на начынку, змажце яе бялком. Афарміце пірог рашоткай з круглых палачак, раскачаных з цеста, або палосак. Выпякайце пірог 20 мінут пры тэмпературы 230—240°C.

**В. Сіёнская**

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### КРАЎЦУ ДАПАМАГАЕ УЛЬТРАГУК

На стол швейнай машыны ўкладаюць сінтэтычную тканіну. Кравец плаўна націскае нагой педаль і вось ужо ў яго руках гатовая мужчынская сарочка. Сшыў яе ультрагук.

Гэта ультрагукавая бязнітачная швейная машына распрацавана ў СССР Усесаюзным навукова-даследчым інстытутам лёгкага і тэкстыльнага машынабудавання.

### ПІЦЕ БУРАЧАНЫ СОК!

Нечаканая слава выпала за апошнія часы на долю звычайных чырвоных буракоў. Тым часам высветлілася, што сок свежых буракоў — добрае лякарства ад прастудных захворванняў, аказвае стрымліваючае ўздзеянне на развіццё злаякасных пухлін. Буракі выкарыстоўваюцца пры лячэнні прамянёвай хваробы.

## Можа расцем да 40 гадоў?

Гавораць, што людзі, якія хварэлі на грып Гонконг і праляжалі ў ложку некалькі дзён, устаўшы, са здзіўленнем заўважылі, што падраслі. Справа не ў грыпе, а наогул у прычыне ляжання.

Спецыялісты прабуюць гэта вытлумачыць так: кожная праца на працягу дня прыціскае нашу косную сістэму, асабліва мяккія часткі пазваночніка. Пасля даўжэйшага адпачынку ў ляжачай пазіцыі наша косная сістэма вяртаецца да нормы.

Некаторыя даследчыкі гавораць, што можна расці нават да 40 гадоў, прымяняючы спецыяльную сістэму гімнастычных упражненняў. Французы рэкламуюць спецыяльную гімнастычную апаратуру, пры дапамозе якой можна падрасці ад 3 да 16 см. Аднак не сумнявацца ў гэтым яшчэ нельга. (я)

**АЛЯКСАНДРА УС, АЛЕНА УЛАДЗІМІРАВА**




### «ЖЫВАЯ КАМУНІСТКА»

Запіска ляжала на краі стала. Але Зубараў спачатку не звярнуў на яе ўвагі. Усю раніцу быў заняты рознымі тэрміновымі бальнічнымі справамі, а яны далёка не такія простыя, як гэта здавалася спачатку. Вайна ёсць вайна, а бальніца ёсць бальніца... І калі ёсць хворыя, значыць, павінны быць урачы, сёстры, санітаркі, павінны быць лякарствы, інструменты, перавязачны матэрыял. Урачы, сёстры, санітаркі... Хто загінуў у час бамбёжкі, хто паспеў эвакуіравацца, а каго па загаду нямецкіх улад і гарадскога аддзела аховы здароўя адправілі ў гета...

Зубараў загадваў усім шукаць, дзе толькі можна, і прыводзіць былых работнікаў гарадскіх бальніц, але ведаў, з якім скрыпам, з якой цяжкасцю выконваўся гэты загад. Людзі не хацелі служыць немцам.

— Скажыце ім, што тут свае, такія ж рускія людзі, як і яны, што ім патрэбна дапамога. Скажыце, урэшце, што я таксама рускі чалавек! — гаварыў ён як толькі мог пераканаўча і горача. Але тыя, з кім размаўляў ён у тую хвіліну, чамусьці глядзелі не ў вочы, не ў твар, а туды, куды ён стукаў рукою, на грудзі, дзе на штрыфлі пінжака быў прыколаты маленькі круглы значок са свастыкай. Зубараў замаўкаў на некалькі хвілін, машынальна захінаўся белым халатом, і збавіўшы эмоцыі, суцяшаў сам сябе:

— Нічога. Голад хутка прывядзе іх сюды.

Каб жыць, каб мець хлебную картку і аўсвайс у акупіраваным горадзе, трэба было недзе прыстроіцца. І ўрэшце сапраўды — так разважалі многія — лепей працаваць тут, памагаючы сваім жа людзям, чым дзе-небудзь у іншым месцы. І паступова ў бальніцу вяртаўся то адзін, то другі. Але мала, ох, як мала! Адна бальніца на ўвесь Мінск — і з такім маленькім штатам!

Па трое сутак людзі не выходзілі з палат, валіліся з ног ад стомы. Хіба такой уяўляў сабе некалі Зубараў уласную медыцынскую ўстанову? Здавалася яму, гэта будзе першакласна абсталяваная бальніца з вышкаленым, добранадзейным персаналам, са сваёй уласнай, няхай невялікай, цэркаўкай — Зубараў быў вельмі набожны чалавек, — каб самых вялікіх грошай не шкадавалі людзі, толькі б «лячыцца ў Зубарава», а калі выпадзе памерці, то «памерці толькі ў Зубарава».

А тут... ледзь не сілком прымушае ён людзей працаваць у бальніцы, а яны ходзяць нейкія маўклівыя, насцярожаныя, быццам чакаюць, што зараз з-пад халата выцягне рэвальвер і паставіць іх да сценкі. Ён жа фашыст!

А хто яны? Бедныя, замучаныя бальшавікамі суайчыннікі, якіх вызваляў разам з нямецкай арміяй, ён, былы рускі афіцэр. Чым дыхаюць яны, аб чым думаюць?

От жа яшчэ адзін клопат — з медыкаментамі. Немцы вельмі мала выдзяляюць са сваіх фондаў лякарстваў для насельніцтва; і даваенныя запасы ў гарадскіх аптэках растаюць не па днях, а па гадзінах. А тут патрабуюць: хірургі — сабе, гінеколагі — сабе. Дзе ўсім набрацца? Урэзаць заяўкі: напалавіну, яшчэ трохі...

А-а, запіска! Ледзь не забыўся. Тут забудзеш, закруцішся. Ну, што там за сакрэт такі? Паглядзім...

«Папярэджваю і прашу паведаміць куды належыць: санітарка Уладыка — камуністка».

Цю-цю! І хто гэта так стараецца? Свой чалавек, значыць, побач ёсць...

— Санітарку Уладыку да мяне! — крыкнуў ён, прачыніўшы дзверы, і нецярпліва заёрзаў на крэсле: хоць і ненавідзеў ён ўсёй душой камуністаў, выпеставаўшы гэтую нянавісць за доўгія гады эміграцыі, але за ўсё сваё жыццё ніводнага камуніста пан Зубараў у вочы не бачыў.

Вось яна спынілася, жывая камуністка, ля дзвярэй, паставіла вядро. Кінула туды анучу. Ён бачыць гэта праз шкло, прыўстаўшы з крэсла... Пастукала.

— Вы мяне пыталіся?

Не, не! Тут, пэўна, памылка. Такая простая, з бледным стомленым тварам жанчына. Спакойныя вочы, натруджаныя рукі... І яна — камуністка?! Хадзіла ў скураной куртцы з рэвальверам, расстрэльвала «нашых» і зрабіла рэвалюцыю ў Расіі? Глупства! Мусіць, нехта па злосці набрахаў. І так санітарак не хапае, а гэты невядомы дабрадзей хоча, каб ён апошніх разагнаў...

— Вось тут пішуць... Прачытайце самі. Калі пісьменныя...

Яна моўчкі ўзяла ў рукі запісачку, прачытала, паціснула плячыма і паклала зноў на стол.

— Што тут казаць? Не ведаю, каму трэба займацца такой справай.

— Я таксама не ведаю. Думаю, што тут памылка. Ідзіце, працуйце. Ды глядзіце ў мяне! — на ўсякі выпадак прыкрыкнуў Барыс Барысавіч.

Цяжкай, натруджанай паходкай — ён ведаў, як працавалі ў гэтыя дні санітаркі — яна выйшла з пакоя. Зноў убачыў, як узяла ў рукі вядро і некалькі разоў то вымала з яго анучу, то клала яе.

Праз тыдзень на стале зноў ляжала запіска. «Яшчэ раз папярэджваю і прашу прыняць меры...» Зноў паклікаў да сябе Уладыку. На гэты раз распытваў падрабязна, дзе нарадзілася, дзе жыла, дзе працавала да вайны. І зноў паціснуў плячыма і адпусціў: ідзіце, працуйце. І нават трэці раз, калі тон запіскі быў проста пагражальны, і трэці раз Зубараў не мог паверыць, што гэтая жанчына магла быць камуністкай.

Але... запіска з'явілася чацвёрты раз.

— «Яна прыбегла да мяне ўсхваляваная, — няхай прадоўжыць гэты расказ сведка тых падзей Марыя Ермачонак, — развіталася: «На гэты раз ён мяне не выпусціць», — і пайшла ў кабінет да «галоўнага». А мы, некалькі яе старых сяброў, усе, каму паведаміла яна пра гэтыя запіскі, кінулі работу і сталі невялічкай групай непадалёк ад кабінета. Чакалі, каб хоць кіўнуць ёй на развi-

# ТРЫБУНА чытачоў

## БЯДА СА ЗВЯРЫНАЙ

Лета. Дзень вялікі. Людзі карыстаюць з пагоды. А калі сонейка зойдзе, кожны хоча адпачыць. Але не ўсім гэта магчыма. Жыхары вёскі Скупава, палі якіх сутыкаюцца з лясамі, па цэлых начах не спяць. Паляць вогнішчы, бубняць у бляхі, крычаць і цкуюць сабакамі дзікіх свіней. Проста няма рады. У каго пасажана ранейшая бульба, то так зрыта, што аж шкада глядзець. Авёс і жыта патоптаны.

Мала гэтага. Амаль кожную ноч прыходзіць вялізны зубр. Ён не вельмі ўжо есць авёс ці жыта. Толькі ў ім пакачаецца, бо, мусіць, мошка і камары яго кусаюць. Ён занадзіўся ў моркву ды буракі. Капусты пакуль што не чапае. Памідоры і салат толькі паскусвае ды выкіне.

Нікога не баіцца. Толькі, відаць, не любіць крыку людзей ды брэху сабак. Бо памалу, не спяшаючы, ідзе ў лес.

За шкоды, зробленыя звярамі, улады заплацяць жыхарам. Але не заплацяць за змарнаваны час пры вартаванні і недаспаныя ночы.

**В. Янцэвіч**
Скупава

## НЯЛАГЕРНАЕ ЛЕТА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Нялагернае лета бельскага гуфца ЗГП так, як і кожны год, праходзіць добра. У павеце дзеці, якія нікуды не выехалі на лета, горнуцца да груп, у якіх арганізавана праводзяць канікулы. Каля 400 гарцэраў на розных курсах былі дакладна пазнаёмлены з працай з дзяцьмі і моладдзю ў час канікул. Да гэтага часу на Бельшчыне арганізавана 250 груп, якія аб'ядноўваюць каля 4000 школьнікаў.

Групы нялагернага лета арганізаваны ў найдалейшых мясцовасцях павета. Яны арганізуюць шмат цікавых мерапрыемстваў, звязаных з 25-годдзем Народнай Польшчы, бяруць удзел у акцыях «Залатое руно», а сабраныя ягады дастаўляюць на пункты скупу.

Да найважнейшых заданняў, якія арганізуе школьная моладзь, трэба залічыць акцыю «нябачныя рукі» і «жніўная дапамога». Дзеці прыносяць на месца жніва піццё, дапамагаюць старэнькім людзям на агародзе і ў хаце.

**В. Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## КІЁСК — КУРАТНІК

У Вялікія Тынявічы (Гайнаўскі павет) калісьці прывезены быў кіёск «Рух». Гэты кіёск стаіць па сённяшні дзень замкнуты і без карысці. Таму што там як не было, так і няма ніякіх тавараў, ані прадаўшчыка. Кіёск спачатку быў памаляваны, а цяпер ужо фарба аблушчылася. Заіржавела сталёвая штаба і велізарны замок, якога ўжо не адамкнеш ключом. Цяпер на дах кіёска ўзлятаюць куры некаторых гаспадароў і там кудахтаюць па цэлых днях.

**М. Тапалеўскі**
Гайнаўскі павет

## УРАЧЫСТЫ ВЕЧАР

19 ліпеня ў Дубічах Царкоўных увечары ў зале святліцы адбылася ўрачыстая сесія, прысвечаная 25-цігоддзю Народнай улады. Сесія пачалася ўручэннем узнагарод самым ахвярным пажарнікам мясцовай добраахвотнай пажарніцкай аховы. Узнагароды ўручалі: камендант аховы Іван Герасімюк і Анатоль Патэюк.

Пасля быў прачытаны даклад, у якім былі паказаны дасягненні і развіццё нашай грамады на працягу 25-ці год. Чытаў яго старшыня Прэзідыума ГРН Мікалай Чыквін.

Сесія закончылася савецкім кінафільмам, які быў бясплатна паказаны для прысутных.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

У вёсцы Тапаркі, што на Гайнаўшчыне, пачаліся работы пры агарожы могільніка, які тут побач распаложаны. Работы праходзяць грамадска і таксама грамадска матэрыялы былі закуплены жыхарамі вёскі. З кожнай хаты нехта тут прысутны пры рабоце. Шмат работы ўжо зроблена. Ужо бетонныя слупы ўкопаны ў зямлю, у якія будуць умураваны жалезныя штабы.

У хуткім часе ўсё будзе закончана.

Трэба адзначыць, што шмат ініцыятывы ў гэтай карыснай рабоце ўлажылі мясцовы солтыс Данік Баравік, Дзмітры Барана і Лявон Бобік.

**М. Т.**
Тапаркі

## КАБ БЫЎ КАРЫСНЫ

Каля Дубіч Царкоўных ва ўрочышчы «Жалубок» (месца, дзе ў мінулым годзе былі выкарчаваныя хмызнякі) ідуць работы пры меліярацыі. Равы капаюць сяляне з гэтай вёскі. Калі работа гэта будзе закончана, пасеюць тут траву. І дзікі Жалубок прыме другі выгляд і карысным стане для вёскі.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## НЕ ПАКЛАПОЦЯЦЦА

На дарозе Старына - Доўгі Брод знаходзіцца мосцік. Мост гэты дзіравы, і няшчасны выпадак можа заўсёды здарыцца. І цікава, што з блізкіх вёсак ніхто не паклапоціцца, каб яго адрамантаваць.

**П. Дубовіч**
Доўгі Брод

## ЛІСТЫ

Паважаны таварыш рэдактар!

Звяртаюся да вас з прасьбай дапамагчы мне высветліць лёс маіх блізкіх двух работнікаў польскага тэатра — Вянгеркаў. Абое насілі адно і тое ж імя «Олек». Аб малодшым Вянгерку, сыне варшаўскага прафесара, якому ў пачатку вайны было 25—27 год, мне вядома, што, эвакуіраваўшыся ў Мінск, ён нейкі час працаваў у Мінскім польскім дзяржаўным тэатры. Аб старшым Вянгерку — дзядзьку першага мне не ўдалося што-небудзь даведацца.

...Як мне стала вядома, тэатр у Беластоку носіць імя Вянгеркі... Чыё імя прысвоена вашаму тэатру — старшага, ці малодшага Вянгеркі... Ці вядома вам нешта аб іх?.. Калі загінулі, дык пры якіх умовах?.. Лёс іх сем'яў?..

**Піваварaў Г. М.**
Баку

Думаем, што пытанні пастаўленыя таварышам Піваваравым з Баку зацікавяць шырэйшыя колы нашых чытачоў, таму і адказ наш будзе крыху шырэйшы.

Аляксандр Вянгерка, імя якога прысвоена драматычнаму тэатру ў Беластоку, нарадзіўся ў Варшаве ў 1893 г. Яго дзядзька, Якуб Вянгерка таксама меў акцёрскія здольнасці, але хутка кінуў тэатральную вучобу і прысвяціў сябе навуковай працы. Да 1960 г., у якім памёр, быў прафесарам, спецыялістам па цукровай хваробе.

Аляксандр Вянгерка дэбютаваў у віленскім тэатры ў 1912 годзе маючы 19 год. Годам пазней пераязджае ў Варшаву. Выступае акцёрам і рэжысёрам. Да верасня 1939 г. у мастацкай дзейнасці Вянгеркі знаходзяцца сцэны Варшавы, Кракава, Лодзі і зноў Варшавы, а таксама гастролі ў розных тэатрах краіны ў славутнай п'есе Нікадэмі «Світанне, дзень і ноч». Калі пачалася вайна, Вянгерка прабіраецца на савецкі бок і жыве спачатку ў Львове, а потым у Гродне, дзе стварае тэатр, які ў верасні 1940 г. пераносіцца ў Беласток. У нашым горадзе тэатр гэты працуе да сакавіка 1941 г., выязджаючы на гастролі ў Гродна і іншыя гарады (Пінск, Брэст, Мінск). У палавіне мая 1941 г. тэатр Вянгеркі выязджае на гастролі ў Мінск. Тут застала яго вайна. Вянгерка мае магчымасць выехаць у Маскву, не карыстае з гэтага, разам з часткай акцёрскага калектыву едзе ў Брэст, тут яго арыштоўваюць і саджаюць у турму. Гітлераўцы вывозяць яго адным з транспартаў у невядомым напрамку.

Разам з Аляксандрам Вянгеркам у беластоцкім калектыве выступаў і яго пляменнік, таксама Аляксандр Вянгерка, які з увагі на аднолькавае імя і прозвішча карыстаўся псеўдонімам «Юно». У калектыве выконваў ён функцыю рэжысёра. Між іншым, рэжысіраваў у сакавіку 1941 г. мантаж «Слова ў паэзіі і песні» і ў красавіку 1941 г. «Адпомсту» Фрэдры. «Юно» загінуў у Асвенціме.

Калі цікавіць Вас жыццё і творчасць Аляксандра Вянгеркі, дык раім прачытаць даступную манаграфію Леоніі Ябланкуўны (пляменніца А. Вянгеркі, была таксама рэжысёрам у яго калектыве, жыве ў Варшаве і працуе ў рэдакцыі «Тэатр») «Аляксандр Вянгерка», выдадзеную ў 1960 годзе Паньствовым Інстытутам Выдаўнічым.

Нас таксама цікавяць апошнія дні гэтага акцёра. Як загінуў, дзе, хто быў сведкам гэтага? Дагэтуль нікому не ўдалося здабыць такіх матэрыялаў, нягледзячы на тое, што неаднаразова рабіліся адпаведныя захады і пошукі. Калі б Вы мелі нейкія дакументы або факты, мы былі б Вам вельмі ўдзячны за перадачу іх нам. Таксама цэннымі былі б для нас прозвішчы і адрасы асоб, якія маглі б перадаць нам весткі з жыцця і творчасці акцёра, імя якога носіць беластоцкі тэатр.



На шашы Беласток - Гайнаўка пры ўездзе ў вёску Дубіны ёсць круты небяспечны паварот. Цяпер тут вядуцца дарожныя работы. Пасля іх заканчэння дарога ў гэтым месцы будзе значна шырэйшая і больш простая.

Фота Цаф — Р. Сянько

---

танне. Мы ведалі гэтую жанчыну шмат гадоў, некалі яе называлі «сумленнем бальніцы», яе любілі і паважалі ўсе. Гэта яна, адна з першых, прыносіла ў бальніцу цэлыя клункі вопраткі для раненых, хавала людзей у сябе дома і памагала ім знайсці дарогу «ў лес».

I вось...

Дзверы адчыніліся. Уладыка выйшла з пакоя. Мы ніколі не бачылі яе такой! Выпрастала плечы, стала, здаецца, вышэй ростам. І пайшла, не аглядаючыся, па калідоры, у самы канец яго, міма нас, міма адной палаты, другой, трэцяй... А Зубараў, крыху прачыніўшы дзверы кабінета, стаяў і глядзеў ёй услед. І мы таксама глядзелі: што адбывалася там? Куды пайшла наша Уладыка?

Назаўтра яна, як і заўсёды, раніцою была на рабоце. Я хутчэй кінулася да яе, цераблю: расказвай, расказвай! Забраліся мы ў цёмную каморку для бялізны, і вось што я пачула...

— «...Зубараў хадзіў з кута ў кут па кабінеце, размахваў паперкай:

— Ну, што загадаеце рабіць? Паслухайце, а можа вы сапраўды камуністка?

...Сама не ведаю, як гэта здарылася. Гордасць закіпела, ці што... Але стала я зусім-зусім спакойная. Ах, думаю, ты, фашыст пракляты, ну чакай жа! Я табе зараз скажу праўду!

— Так, я камуністка.

Мы стаялі насупроць адно аднаго і доўга маўчалі. Здаецца, так доўга, так доўга... Нарэшце ён апусціў вочы, моўчкі парваў запіску на маленькія кавалачкі, кінуў іх у печ і чыркануў запалку. Глядзеў, пакуль не дагарэў апошні кавалачак».

**Працяг будзе**

## Сардэчныя тайны

### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Нядаўна я вярнуўся з войска і пастанавіў ажаніцца. Будучы на фэстыне, я пазнаёміўся з дзяўчынай, Лідай. Яна прыгожая, мае 20 год. Мы танцавалі цэлы вечар. Я адвёў яе да цёткі, у якой яна начавала. Бо яна з іншай вёскі. Ад гэтага часу я пачаў наведваць яе вёску, заязджаў да бацькоў Ліды, там гасціў, а потым хадзілі мы на забаву. Аднойчы я прыехаў, але Ліда паехала ў горад і не вярнулася ў нядзелю. Дык я пайшоў на забаву з хлопцамі, з якімі пасябраваў, ездзячы да Ліды. Яны мне (па выпіўцы) расказвалі, што Ліда жыла з адным хлопцам і ён яе пакінуў. І яшчэ вельмі многа, многа непрыемных рэчаў расказвалі аб Лідзе. Я надалей сустракаюся з Лідай, і нічога ёй аб гэтым не гавару, а яна таксама ні аб чым не ведае. Аднак баюся цяпер з ёю жаніцца, а я ж ужо перад гэтым гаварыў з Лідай на тэму жаніцьбы і яна выразіла згоду. Гаварыла, што яна пакахала мяне і хацела б быць маёю жонкай. Што рабіць, Сэрцайка, як цяпер выкруціцца з гэтага абяцанага слова. А праўду кажучы, я вельмі пакахаў Ліду і баюся, што іншай не сустрэну такой, як Ліда.

Чакаю парады.

**Віца з Б.**

**Віца!** Не трэба верыць плёткам, не трэба так адразу пахопна пастунаць, бо можна потым шкадаваць свайго неразважнага ўчынку. Мне здаецца, лепш ты пагавары аб усім з Лідай, лепш паслухай яе праўды і пасля гэтай размовы удваіх вырашыце, што рабіць далей. Людзі могуць многа дадаць. Таму лепш, калі ты ўсю праўду ці няпраўду пачуеш ад самой Ліды.

**Сэрцайка**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нарва**

„Dzień, w którym wypłynęła ryba" (grecki), 13—17.

**Чыжы**

„Świat grozy" (polski), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**

„Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 14—17.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Falstaff" (hiszpański), 13—17.

**Орля**

„Poznańskie słowiki" (polski), 13—17.

**Райск**

„Wilcze echa" (polski), 13—17.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Tylko jedno życie" (radz.), „Dzika Elżbieta" (czeski), 12—15.

**Міхалова**

„Jo-jo" (franc.), 12—13. „Panie inspektorze" (jugosł.), 14—15. „Maskarada szpiegów" (angl.), 16—17.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Przygody Wernera Holta" (NRD), 12—13. „Ludzie w hotelu" (USA), 14—15. „Ruchome piaski" (polski), 16—17.

**Шудзялава**

„Trzydzieści trzy" (radz.), 13—17.

**Янаў**

„Każdemu swoje" (włoski), 16—17.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Zakochana wiedźma" (włoski), 12—13. „Godzina nadziei" (polski), 14—15. „Słońce obcego nieba" (jugosł.), 16—17.

**Мельнік**

„Szukam ojca" (radz.), 12—13. „Grek Zorba" (USA), 14—15. „Rzeczypospolita babska" 16—17.

**Мілейчыцы**

„Kochajmy syrenki" (polski), 12—13. „Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), 14—15. „Czworokąt śmierci" czeski), 16—17.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Napad stulecia" (angl.), 13—17.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861




— Нарэшце мы дабіліся масавасці ў спорце.

# ПАЖАР, ПАЖАР!

**Дзеючыя асобы: Гаспадар кватэры — Г. Пажарнік — П.**

П. Гэта вуліца Селянкова, 32, кватэра 16?
Г. Так.
П. Нам пазванілі, што ў вас пажар.
Г. Гэта памылка, ніякага тут пажару няма.
П. Нам паведамілі па тэлефоне, што ў вас пажар.
Г. Ды што вы, я ж тут жыву.
П. Гэта вуліца Селянкова, 32 кватэра 16?
П. А ў мяне напісана: Селянкова, 32, кватэра 16. Памылкі быць не можа, пажар павінен быць.
Г. Але што зробіш? Няма пажару. Тут нейкае непаразуменне.
П. Ах, непаразуменне? А ваш тэлефон — 213-465?
Г. Так, гэта мой тэлефон.
П. Значыць усё ў парадку. Пажар ёсць.
Г. Няма ніякага пажару. Я ж бы ведаў! Можа гэта дарэмная трывога?
П. Дарэмная трывога? Значыць, вы пазванілі ў пажарную каманду проста так, для смеху? А вы ведаеце, што за гэта можа быць?
Г. Клянуся, я не званіў. Можа дзеці, калі мяне дома не было...
П. Нам усё роўна, хто званіў. Калі трывога сапраўды дарэмная, не хацеў бы я быць на вашым месцы. Пракуроры аж шалеюць ад такіх спраў. Вам з турмы не вылезці.
Г. Што ж рабіць? Хоць бы якая-небудзь іскрынка, а тут як на зло ўсё ў парадку. Зразумейце маё становішча.
П. Я вам раю займець пажарчык. З пракурорам жарты дарэмныя.
Г. Так, але як яго зрабіць.
П. Гэта ўжо не мая справа. Я пажары толькі тушу.
Г. Пачакайце адну хвілінку, я загляну ў другі пакой. Там у мяне маленькая бутэлечка з бензінам.
П. Паспяшайцеся. Мы і так ужо страцілі многа часу. (Гаспадар выходзіць, праз хвіліну вяртаецца).
Г. Гарыць! Пажар у спальні. Гарыць падлога, коўдра і фіранка.
П. (заглядвае). Сапраўды, гарыць. Ну, цяпер усё ў парадку. Што ж, падлога гарыць даволі прыстойна, ды і коўдра з фіранкай нядрэнна.
Г. Чаго ж вы глядзіце? Чаму не тушыце?
П. Што? Тушыць? Не будзеце дарэмна выклікаць пажарнікаў! У вас была дарэмная трывога, а я не сапраўдны пажарнік. Цяпер тушыце самі.

**Януш Асэнка**



Без слоў.

# НІЎКА

### УСЁ РОЎНА ЗАХОДЗЬЦЕ

Альберт Эйнштэйн, задумаўшыся, ідзе па вуліцы. Раптам сустракае свайго сябра і ветліва просіць яго:

— Заходзьце да мяне адвячоркам. У мяне будзе і прафесар Сцімсан.

— Дык я ж Сцімсан! — усклікнуў здзіўлены сябар.

— Гэта не мае ніякага значэння — запярэчыў Эйнштэйн, — усё роўна заходзьце.



### ПАТРЭБНА ДА РАБОТЫ

Джон прывёў дамоў каханую дзяўчыну, каб пазнаёміць яе з маці.

— Мама, гэта цудоўная дзяўчына. Яна любіць варыць, добра пячэ пірагі, акуратна прыбірае кватэру і наогул усё ўмее рабіць.

— Вельмі добра! — сказала маці. — Я яе прымаю. Няхай прыходзіць у аўторкі і чацвяргі.



### ВЫСОКАЕ МЕСЦА

Барэн сядзеў на вільчаку хаты, калі воўк зайшоў у двор. Давай баран лаяць ваўка, абражаць яго па ўсялякаму.

— Дурань, — сказаў воўк. — Не ты мяне абражаеш, а тваё высокае месца.

### З АРМЯНСКАГА

Не ўсё, што круглае, яблык.

Дзеля ячні і патэльню пацалуеш.

Сэрца не абрус: перад кожным не рассцелеш.

І без пеўня сонца ўзыдзе.

Кот, які спіць, мыш не зловіць.




Не дачакаліся.

### МАСАВАЯ ПРАФЕСІЯ

Пры здымцы аднаго амерыканскага фільма спатрэбіўся тэхнічны кансультант-спецыяліст па абрабаванню банкаў. Каб знайсці патрэбнага чалавека, кінакампанія змясціла аб'яву ў газеце, якая выдаецца ў Філадэльфіі. Амаль тады ж, як піша газета «Інтэрнешнл геральд трыбюн», свае паслугі стваральнікам кінакарціны прапанавала 87 чалавек, з іх 12 зняволеных, што цяпер сядзяць у турме за абрабаванне банкаў.

Як бачым, за акіянам не адчуваецца недахопу ў такіх спецыялістах!

*

Мадам Бенуа настойвала, каб ёй павысілі зарплату. Аднак дырэктар быў цвёрды.

— Бачыце мадам Бенуа, вось, напрыклад, рахункавод Марэль з бухгалтэрыі з'яўляецца бацькам пяцёра дзяцей, а грошай атрымоўвае не больш, чым вы!

— А я думала, што на нашым прадпрыемстве плоцяць за тое, што мы працуем тут, а не за тое, што мы робім у хаце.

### МОДНЫ ПАЎЛІН

Каб больш падабацца павам, паўлін рашыў стаць модным: абрэзаў доўгі хвост і чубок.

Павы яго не пазналі і пасля гэтага на паўліна не звярталі ніякай увагі.

Затое куры былі ў захапленні: «Які модны певень з'явіўся!» — кудахталі яны.

### ПАЛАСАТАЯ ЗЕБРА

Калісьці зебра была не паласатая.

Аднойчы леў і тыгр паспрачаліся: якой масці зебра — чорная ці белая? Спрачаліся, спрачаліся, ніхто нікога не пераканаў. Выклікалі зебру і спыталі, якой яна масці.

Стала бедная зебра перад царамі звяроў — ні жывая ні мёртвая. Зірне на льва, а той рыкае:

— Ты чорная!

Павернецца да тыгра, а ў таго кіпці зямлю скрабуць ад злосці:

— Ты белая!

Паспрабуй тут не дагадзіць якому цару.

— Я... я чорная і белая, — нарэшце вымавіла зебра. — Чорна-белая.

І з таго часу зебра зрабілася паласатая.

*

Вучоны сабака выклікаў усеагульнае захапленне, таму што ён вельмі добра іграў у пакер. Але яго гаспадар не раздзяляў гэтага захаплення.

— Мне сорамна за яго, — аб'ясніў ён. — Ён не можа хітраваць, не ўмее скрываць свае пачуцці. Кожны раз, калі ў яго ў руках аказваюцца добрыя карты, ён віляе хвосцікам.



Жонка альпініста.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ларысы, Люсі, Ніны, Надзі і Мані з Кузавы, Гайнаўскага павета, Веславы і Яланты Тэрэбун са Сталбцоў, Сямяціцкага павета, Надзі Асіпчук, Галіны Мікалаюк, Олі Шатыловіч і Ядвігі Маркевіч з Дашаў, Гайнаўскага павета змяшчаем песню п. з.

## CYGANKA

**Muzyka: Henryk Blum**
**Słowa polskie: Agnieszka Osiecka**

Odejdę, odfrunę, walizki spakuję —
i już!
Tam ta ta ram itd.
Oto ja, cała ja!
Nie kupuj mi nic
nowego, drogiego, ważnego,
bo przecież ty wiesz —
tam ta ta ram itd.
potrwa to (dzień lub dwa)
dzień lub dwa
dzień lub dwa

Refren:

Nie dziw, że o mnie w miasteczku
złych plotek jest moc,
co mi tam —
Oczy mam czarne i włosy mam czarne
jak noc,
Co mi tam!
Cyganka, Cyganka, tak mówią już
o mnie na mieście
tam ta ta ram itd.
A ja nie wiem już,
jak to tam ze mną jest
Z Cyganką, z Cyganką — panowie wy
ślubu nie bierzcie!
tam ta ta ram itd.
na cóż wam taki gest, taki gest
taki gest...
Tak chciałabym dziś
zatęsknić, pokochać, polubić
na wieki, na mur!
Tam ta ta ram itd.
Oto ja, cała ja!
tak chciałabym dziś zaśpiewać,
zapłakać
zanucić nie w moll
tylko w dur...
tam ta ta ram itd.
A już po czterech dniach
wzywa mnie wielki świat!

Refren:

Nie dziw, że o mnie w miasteczku...

### ПРЫНЯЛА МЕРЫ

Вядомую французскую актрысу Франсуазу Ардзі спыталі, ці прыняла яна меры перасцярогі, калі ў адным з эпізодаў новага фільма вяла адкрытую машыну з хуткасцю 140 кіламетраў у гадзіну.

— А як жа, — адказала яна, — я вельмі моцна апырскала сваю прычоску лакам.

### З БАЛГАРСКАГА

Суддзя: — Вас абвінавачваюць у тым, што вы ўдарылі сваю жонку талеркай па галаве. Няўжо вам не шкада яе?

Габравец: — Вядома, шкада: талерка была зусім новая.

## КУРЁЗЫ

### ГРЫМАСА

Не падумайце, што паказаны на гэтым здымку чалавек проста глыбока зацягнуўся сігарэтай. 73-гадовы жыхар Уэльса Дэй Луэлін намервацца прыняць удзел у конкурсе на самую забаўную грымасу.



### БОБІ Ў РОЛІ МАЦІ

Маці гэтых курант загінула, і сірот ахвотна ўзяў пад апеку Бобі, сабака італьянскага фермера з Вероны. Такая замена, відавочна, не вельмі засмуціла малышоў.



### КАПЯЛЮШ НЕ ПАМОГ

Адна студэнтка з універсітэта ў Мальме (Швецыя) вырашыла здзівіць прафесара, надзеўшы на экзамен аграмадны капялюш арыгінальнага фасона. Аднак такая выдумка не памагла, студэнтка правалілася.



**Не ўступай у спор з літаратурным карлікам — нават незалежна ад свайго жадання, ён будзе біць ніжэй пояса.**